НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 8 (749) 29 лютага 2012

www.nn.by

# Наша Ніва

П Е Р Ш А Я   Б Е Л А Р У С К А Я   Г А...

Заснаваная ў лістападзе 1906. Аднаўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Вых...



## Сапраўдныя беларускія сімвалы

«Пагоні» больш як 700 гадоў, тады як чырвона-зялёны сцяг быў прыдуманы ў 1951-м. Старонка 13.

# Чырвоная лінія пяройдзеная

Краіны Еўрасаюза **адклікаюць з Беларусі** сваіх паслоў. **Старонка 3.**



**Тэндэнцыі**

## Расіянаў пусцяць у Салігорск?

**Лукашэнка прапануе** Расіі стварыць супольную кампанію па вытворчасці ўгнаенняў.

У адзін дзень з рашэннем высляць паслоў Еўрасаюза і Польшчы з Беларусі Аляксандр Лукашэнка заявіў пра «намер у бліжэйшы час прапанаваць кіраўніцтву Расійскай Федэрацыі стварэнне буйной сумеснай кампаніі па вытворчасці ўгнаенняў».

Лукашэнка заявіў пра гэта ў аўторак, узгадняючы прызначэнне генеральным дырэктарам

### Масква хоча доступу да вытворчасці калію — самага прыбытковага прадпрыемства Беларусі

ЗАТ «Беларуская калійная кампанія» свайго земляка Валерыя Іванова. Ягоныя словы прыводзіць агенцтва БелТА.

Іваноў узначальваў Шклоўскі райвыканкам у часы разбудовы там Александрыі і іншых аграгарадкоў. Прыім раён ператварыўся ў выстаўку дасягненняў сельскай гаспадаркі.

**Праця на старонцы 3.**

**VIP**

### Самы паспяховы малочнік краіны

Саюз рыбы і малака Аляксандра Машэнскага. **Старонка 5.**



**Грамадства**

### Рэзідэнцыю на Мінскім моры дабудавалі

«Ітэра» пакінула таямнічы жылы комплекс. **Старонка 6.**



**Крымінал**

### «А ў мяне сям'я, двое дзяцей…»

Асуджаны міліцыянт Лінкус не прызнае сябе вінаватым. **Старонка 10.**



**Беларуская глыбіня**

### Бездань Азэфа

Звычайны габрэйскі хлопчык з беларускага мястэчка… Піша Павел Севярынец. **Старонка 12.**



# Непакорных рабочых «Граніта» адправяць на перавыхаванне ў войска

З актывістамі незалежнага прафсаюза **прафілактычную гутарку** правёў пракурор.

Некаторых з незадаволеных рабочых выклікалі ў ваенкамат, дзе паведамілі, што забіраюць на вайсковыя зборы. Кіраўнік суполкі незалежнага прафсаюзу Алег Стахаевіч мяркуе, што ціск адміністрацыі прадпрыемства набывае прыхаваныя формы.

«Учора я быў удзень на працы, і мне далі позву. Адпаведна, я аналізаў ніякіх не здаваў, нічога не праходзіў як трэба. Флюараграфіі ніякай не рабіў. Але іх гэта мала цікавіць. 16 сакавіка будзе сход, і з 30 сакавіка, я так зразумеў, будуць забіраць. Хто самы больш актывіст, то вось і забіраюць...», — кажа адзін з рабочых «Граніта».

«Абрынулася на гэтых рабочых ужо не толькі адміністрацыя «Граніта», але і дзяржаўная машына. Паводле размоваў, якія ходзяць на «Граніце», у КДБ быў выкліканы ваенкам і яму было дадзенае ўказанне наконт пяцёх чалавек найбольш актыўных. Праўдамі і няпраўдамі іх на гэтыя зборы прыцягнуць», — расказвае Стахаевіч.




Нядаўна рабочыя «Граніта» падпісалі заяву, дзе пагражаюць забастоўкай. З падпісантамі праводзіў прафілактычныя гутаркі пракурор Лунінецкага раёна Віктар Савіч.

«Адказаў, што ніхто не кажа, што заўтра будзе страйк, — кажа Стахаевіч. — Мы цудоўна ведаем нормы, закон, як гэта ўсё адбываецца».

Аднак рабочы кажа, што, тым не меней, 6 чалавек з прычыны ціску адміністрацыі адклікалі свае подпісы пад заявай аб магчымым страйку.

**Радыё «Свабода»**




PHOTO.BYMEDIA.NET

## Малады Фронт далучыцца да збору на Дзень Волі

Арганізатары плануюць сабраць удзельнікаў **25 Сакавіка** а 13.30 каля Акадэміі навук.

Менавіта на гэты час падаецца заяўка на шэсце ў гарвыканкам. «Разам з тым, ісці ці не ісці на плошчу Бангалор, кожны будзе вырашаць сам», — адзначыў прадстаўнік хрысціянскіх дэмакратаў у аргкамітэце Дзяніс Садоўскі.

Раней МФ выказваў нежаданне кіравацца на плошчу Бангалор, у парк Дружбы Народаў. На думку юнакоў, шэсце на Дзень Волі павінна пачацца і скончыцца ў цэнтральнай частцы сталіцы.

**МБ**

## Ашуканцы ў «Аднакласніках»

Зламыснікі **падманным шляхам** дазнаюцца нумары мабільных тэлефонаў карыстальнікаў.

У Беларусі сёлета не менш за 50 чалавек сталі ахвярамі ашуканцаў, якія дзейнічаюць праз сацыяльную сетку «Аднакласнікі», паведамілі ў МУС.

Зламыснікі падманным шляхам дазнаюцца нумары мабільных тэлефонаў карыстальнікаў і коды, якія дасылаюцца сацыяльнай сеткай для куплі своеасаблівай віртуальнай валюты «Аднакласнікаў» — ОКаў.

Ашуканцы набываюць ОКі досыць вялікімі партыямі, а з рахунку абанента спісваецца ўсе грошы, і ён яшчэ застаецца вінны аператару сувязі немалую суму. Як правіла, гэта некалькі сотняў тысяч рублёў. Заявы пра падобнага роду махлярства паступаюць у міліцыю ад жыхароў розных рэгіёнаў краіны, у тым ліку Мінска.

Махлярам на руку спрошчаная схема атрымання кода ад сацсеткі, якая ажыццяўляецца праз службу мабільных паведамленняў аднаго з буйных аператараў сотавай сувязі

«Мы прапанавалі кампаніі змяніць існуючы механізм разлікаў», — растлумачылі ў міліцыі. Прапануецца, каб абаненты для аплаты паслуг адпраўлялі СМС з пацвярджэннем кожнага факту аплаты. Як лічаць у МУС, гэта дазволіць цалкам выключыць здзяйсненне ашуканскіх дзеянняў і павысіць імідж сотавай кампаніі.

**БЕЛТА**

## Бабуля Васьковіча: «Нізкі паклон вам, людзі, за падтрымку»

«З усіх канцоў Беларусі і замежжа **тэлефануюць нам людзі**, моляцца ў цэрквах і касцёлах, ахутваюць нас клопатам».

«Паважаныя сябры, вы сваім спачуваннем ды павагай загойваеце нашы раны, умацоўваеце надзею, дадаяце сілаў. У вас хапае душэўнай цеплыні, каб аблегчыць нашы пакуты. За дабрыню, спагадлівасць, спачуванне дзякуем вам, людзі. Нізкі вам паклон. Зычым вам цёплага дома, звычайнага шчасця, моцнага здароўя.

Каб вы і вашы дзеці жылі ў радасці і каб ніколі не было ў вас страху перад будучыняй — каб былі спакойныя за вашых дзяцей, унукаў ды праўнукаў. Барані вас Госпад, а мы з надзеяй будзем чакаць вызвалення ўсіх палітзняволеных і нашага Яўгена...», — сказала бабуля палітвязня Яўгена Васьковіча Зоя Іванаўна на вечарыне ў гонар дня нараджэння хлопца.

## Сціслa

### У Мінску паставяць помнік народным мсціўцам

У Мінгарвыканкаме разглядаюць магчымасць усталявання каля Свіслачы скульптурнай кампазіцыі «Парад беларускіх партызанаў». Помнік мусіць адлюстраваць радасць народных мсціўцаў падчас параду.

### 24-гадовы ў Брэсце зваліўся з моста цераз чыгунку і загінуў

Няшчасны выпадак адбыўся 27 лютага каля 17.00. Хлопец быў п'яным, зваліўся пры спуску з пешаходнага моста, які вядзе з прыгараднага вакзала. Праводзіцца праверка.

### У Шаркаўшчынскім раёне збіраюць грошы для Сяргея Каваленкі

Актывісты з Германавічаў і Шаркаўшчыны неаднойчы выяўлялі салідарнасць, ахвяроўваючы грошы. У студзені яны сабралі 600 тысячаў рублёў для паэта Рыгора Барадуліна. У снежні — некалькі мільёнаў для «кампенсацыі шкоды» па справе зняволенага праваабаронцы Алеся Бяляцкага.

### Пачаўся вясновы прызыў

Усяго ў злучэнні і воінскія часці Узброеных сіл, іншыя войскі і воінскія фарміраванні для праходжання тэрміновай ваеннай службы плануецца накіраваць прыкладна 10 тысяч чалавек. Прызыву грамадзян на службу ў рэзерве ў лютым-маі сёлета не будзе.

**ЗП, БЕЛТА, Westki.info**

## З пошты рэдакцыі

Рыгор Шэрда

### Вясновы далягляд

Рэфлексія на **метэаралагічную тэму.**

Якое шчасце? Дзе той лад?
Працуй — пацей, Анёл-ахоўнік!
З краіны робячы штрафбат,
Тлусцее выскачка-чыноўнік...

Мацёры карупцыянер
Тут мае лютыя працэнты,
Хоць быў агучаны намер
Разбіць карупцыю дашчэнту...

Здаровы сэнс пад карані
Сякуць «апошнія навіны»,
Бо колькі зграю ні кармі,
Ёй люба кіраваць краінай...

Пад пазалотай — хам і кат,
Хвалько і невук, хлус і злодзей.
Ды страціў ён шляхі назад:
Вясна цалуе далягляд,
Запахла зменамі ў прыродзе...

## Самае чытанае на сайце nn.by за 22-28 лютага

1 Вырак Каваленку — 2 гады 1 месяц калоніі
2 Касманаўт Кавалёнак: «Я зрабіў памылку, калі ўнёс бел-чырвона-белы сцяг»
3 23 лютага — не беларускае свята
4 Лукашэнка прызнаў фальсіфікацыі. На «Еўрабачанне» паедзе Litesound
5 «Мы патрабуем іншую, сумленную ўладу!»
6 Лукашэнка выганяе паслоў ЕС і Польшчы, адклікае сваіх
7 Ціхановіч пра падлік галасоў на «Еўрафэсце» і Лідзію Ярмошыну — відэа
8 Таемныя спружыны БТ
9 Рэзідэнцыю на Мінскім моры дабудавалі
10 Жывы ланцуг супраць Пуціна ў Маскве — фота

# Чырвоная лінія пяройдзеная

Краіны Еўрасаюза **адклікаюць з Беларусі** сваіх паслоў.

Доўгі час пытаннем заставалася нават тое, ці будзе Рада ЕС на сваім пасяджэнні 27 лютага разглядаць беларускае пытанне. Пятнічны прысуд Каваленку (2 гады і 1 месяц калоніі) вымусіў еўрапейцаў зрэагаваць.

Да ўжо існуючага спісу неўязных далучана яшчэ 21 прозвішча. З якіх 19 чыноўнікаў судовай сістэмы, а яшчэ двое працуюць у органах МУС. Дакладныя прозвішчы на момант падпісання нумара ў друк яшчэ не былі вядомы. Усе яны маюць дачыненне да рэпрэсій супраць беларусаў.

Таксама Еўрасаюз прыпалохаў, што ў сакавіку будуць разгледжаныя санкцыі супраць беларускага бізнесу. «Каб зачапіць тых, хто з'яўляецца бенефіцыярам рэжыму Лукашэнкі», — сказала міністарка замежных справаў ЕС Кэтрын Эштан.

Гаворка будзе весціся не толькі пра забарону на ўезд, але і замарожванне рахункаў у еўрапейскіх банках.

**Мальта Пефцієва**

Пакуль што ў спісах неўязных фігуруе прозвішча толькі аднаго беларускага бізнесоўца — Уладзіміра Пефцієва. На Захадзе яго называюць «кашальком Лукашэнкі».

Дарэчы, на мінулым тыдні Мальта ўявіла крымінальную адказнасць для тых, хто ігнаруе санкцыі ЕС супраць старшыні «Белтэхэкспарта».

Чаму Мальта? Бо менавіта на гэтай выспе Пефцієў пражыў некалькі гадоў, нават атрымаў грамадзянства краіны, а ў лютым 2010 зарэгістраваў там фірму Samuel International. Ён нават спадзяваўся стаць ганаровым консулам Мальты ў Беларусі, але ўрад краіны ЕС палічыў яго кандыдатуру «неадпаведнай».

Цяпер парушальнікам санкцый ЕС адносна Пефцієва будзе пагражаць на Мальце штраф у памеры 116 тысяч еўра.



Сяргей Гудзілін

Лешаку Шарэпку прапанавалі з'ездзіць у Варшаву «для кансультацый».

**Славенія Чыжа**

А вось прыклад іншы. Другі самы багаты беларускі бізнэсовец (пасля Пефцієва) Юры Чыж санкцый ЕС пакуль паспяхова ўнікнуў, хоць яго кандыдатура і фігуравала ў папярэдніх спісах.

Паводле інфармацыі бельгійскага выдання Euobserver, менавіта праз Чыжа ўзніклі рознагалоссі паміж краінамі ЕС. Сайт са спасылкай на свае крыніцы паведаміў, што Славенія наклала вета на санкцыі супраць Чыжа. Сайт звязвае гэта з тым, што кампанія гэтай балканскай краіны Riko Group выйграла тэндар на будаўніцтва ў Мінску да Чэмпіяната свету пяцізоркавага гасцінічнага комплекса «Кемпінскі» ў супрацы з групай кампаній «Трайпл», што належыць Чыжу. Кошт узвядзення комплекса перавышае 100 млн еўра.

Фактычна, Славенія скарысталася правілам «ліберум вета», якое існавала ў сойме Рэчы Паспалітай. Гэты прынцып дазваляў любому дэпутату спыніць абмеркаванне пытання, калі ён выступае супраць.

«Як бы гэта ні было сумна, але для ЕС эканамічныя інтарэсы адной дзяржавы больш важныя за неабходнасць уплыву на беларускія ўлады, — сказаў на гэта міністр замежных справаў Польшчы Радаслаў Сікорскі, а пасля дадаў:

— Спадзяюся, наведвальнікі гатэля «Кемпінскі» будуць памятаць пра палітвязняў, жывучы ў раскошных апартаментах».

Усё той жа Euobserver адзначае, што нібыта Чыжа ўнесці ў спіс неўязных прапанавала Францыя, якая прайграла тэндар на будаўніцтва. Аднак крыніца выдання кажа на гэта, што Францыя сама адмовілася ад праекта.

«Славенія не магла пагадзіцца

**Славенія скарысталася правілам «ліберум вета», бо мае бізнэс-кантакты з Чыжом**

з фактам, што ў гэты спіс быў уключаны толькі адзін бізнэсовец, г.зн. спадар Юры Чыж. Ёсць болей беларускіх бізнэсоўцаў, якія падтрымліваюць беларускі рэжым, якія маюць блізкія адносіны з гэтым рэжымам», — зазначыў кіраўнік замежнапалітычнага ведамства Славеніі Карл Эр'явец.

Аргументы блізкія да тых, што вылучаў брусэльскі Офіс «За дэмакратычную Беларусь», каб выкрасліць са спісу Пефцієва.

**Хакея не будзе?**

Ціск на беларускія ўлады з патрабаваннем вызваліць палітвязняў праходзіць не толькі праз абмеркаванне санкцый.

Пытанне аб мэтазгоднасці правя-дзення Чэмпіяната свету ў Беларусі ў 2014 зноў будзе разгледжана на кангрэсе ІІНF. Хаця ў Беларусі ўпэўненыя, што праблем у гэтым пытанні не павінна ўзнікнуць.

Да адмены першынства, напрыклад, заклікае «Акт аб дэмакратыі ў Беларусі», які падпісаў прэзідэнт ЗША Барак Абама. Таксама гэтую ініцыятыву лабіруе беларуская дыяспара, якая прыцягвае на свой бок знакамітых лю-дзей, такіх як драматург Том Стопард ці баскетбаліст Шарунас Марчулёніс.

**Паслы паехалі дамоў**

Яшчэ раней Лукашэнка папярэдзіў, што афіцыйны Мінск можа жорстка адрэагаваць на санкцыі: «Гэтыя санкцыі, якімі вы, еўрапейцы, размахваеце перад нашым носам, вы зразумейце — мы пакуль трываем. Але калі толькі вы пераступіце чырвоную лінію, мы адкажам вельмі жорстка».

Дзе тая лінія, могуць сказаць паслы. Звычайна мяркуецца, што гэта ўвядзенне эканамічных санкцый. Аднак Мінск «нанёс удар у адказ» і на даволі фармальнае рашэнне Брусэля. Замест чаканага вызвалення палітвязняў кіраўніцтва прадстаўніцтва Еўракамісіі Маíры Моры і паслу Польшчы Лешаку Шарэпку прапанавана выехаць у свае сталіцы для кансультацый.

Прэс-сакратар МЗС Андрэй Савіных растлумачыў, што ім прапануецца «давесці свайму кіраўніцтву цвёрдую пазіцыю беларускага боку аб непрымальнасці ціску і санкцый». З Брусэля і Варшавы адкліканыя і беларускія паслы Еўдачэнка і Гайсёнак.

Адкліканне паслоў для кансультацый — гэта адна з крайніх дыпламатычных мераў.

У Брусэлі цярпець такога не сталі. На тэрміновым пасяджэнні ў аўторак было вырашана, што ўсе паслы ЕС пакінуць Беларусь. На знак салідарнасці і адзінства.

**Зміцер Панкавец**

**Павел Севярынец: Адказнасць нясе толькі Лукашэнка**

Каментар палітвязня, сустаршыні БХД.

**ПС:** Вядома, гэта кепска. Адказнасць нясе толькі Лукашэнка. Ён губляе магчымасць балансаваць паміж Захадам і Усходам і сам заганяе сябе ў расійскую пашчу. Баюся, што ўсё паўтараецца па «амерыканскім сцэнары». Я маю на ўвазе дыпламатычны канфлікт 2008 года. Наступным крокам уладаў можа быць скарачэнне дыпмісіі Польшчы і Еўракамісіі да «амерыканскай квоты». Стратэгічна гэта выгадна Расіі.

**«НН»: Што рабіць незалежнаму грамадству ў гэтай сітуацыі?**

**ПС:** Вырашаць галоўную праблему — справіцца з рэжымам. Людзі павінны ўключацца ў кампанію байкоту, не толькі парламенцкіх выбараў, але і ўсёй гэтай улады.

**ЗП**

## Класкоўскі: Гэта абвяшчэнне дыпламатычнай вайны

Было б неабачліва **давесці сітуацыю** да стадыі, як з пасольствам ЗША.

Тое, што адбываецца цяпер у беларуска-еўрапейскіх адносінах, экспертам нагадвае сітуацыю з амерыканскім пасольствам, якая здарылася ў 2008 годзе.

«ЗША патрабавалі вызваліць Аляксандра Казуліна і ўвялі эканамічныя санкцыі, — нагадвае Аляксандр Класкоўскі. У адказ Мінск выслаў амерыканскага пасла, а пасля старанна зачысціў штат амбасады ЗША ў Мінску. Сітуацыя — аналагічная. Фактычна, гэта аб'яўленне дыпламатычнай вайны. І перспектывы развіцця гэтай сітуацыі вельмі змрочныя. Паколькі Мінск абяцаў даць «жорсткі адказ» — гэты адказ выльецца ў ціск на «пятую калону», як называе апазіцыю Лукашэнка, і на дыпламатаў. У гэтай сітуацыі крайнімі апынуцца яны».

Па словах палітычнага аглядальніка Аляксандра Класкоўскага, цяпер робіцца зусім зразумела, чаму рыхтавалася прапагандысцкая глеба супраць заходніх амбасадаў. «Было б вельмі неабачліва давесці сітуацыю да стадыі, як з пасольствам ЗША, — мяркуе палітолаг. — З ЗША халодная вайна — на доўгія-доўгія гады. Таму спаліць за сабой усе масты ў Еўропу Мінск не можа. Гэта будзе дрэнна для Беларусі і для рэжыму — у тым ліку».

**«Беларускі партызан»**

## Расіянаў пусцяць у Салігорск?

Працяг са старонкі 1.

Пазней гэты магілёўскі чыноўнік працягнуў кар'еру ў Мінску на пасадах у так званай палаце прадстаўнікоў і віцэ-прэм'ера. Ён усяго на год маладзейшы за Аляксандра Лукашэнку, нарадзіўся пад Клімавічамі.

«Мы абмяркуем варыянт працы Беларусі і Расіі з ўгнаеннямі наогул, — заявіў Лукашэнка. «У нас ёсць калійная кампанія, якая, дарэчы, сёння займаецца і продажам азотных угнаенняў. Гэта вопыт. Мы прапануем расейцам стварыць наймагутнейшае аб'яднанне, якое натуральна будзе ўплываць і на цэны на сусветным рынку, мы гэта не ўтойваем», — сказаў Лукашэнка.

«Фармуючы гэтую кампанію [«Беларускую калійную кампанію»] з расейцамі, мы дамаўляліся, што ўсе продажы будуць ісці праз Беларускую калійную кампанію — расійскіх угнаенняў і нашых.

Гэта трэба захаваць. Якія там варыянты, каб лепш і танней мець крэдыты для таго, каб на рынку больш эфектыўна працаваць, гэта ваша справа, на гэта трэба ісці. Але прынцып застаецца адзін: той, пра які мы дамаўляліся», — кажа кіраўнік краіны.



Працоўны шлях Іванова: Шклоў — Мінск.

«Беларуская калійная кампанія» — эксклюзіўны пастаўшчык калійных угнаенняў вытворчасці ААТ «Беларуськалій» (Салігорск, Беларусь) і ААТ «Уралкалій» (Пермскі край, Расія) на замежныя рынкі і вядучы сусветны экспарцёр гэтай прадукцыі.

**Мікола Бугай**

# Чым расійскія выбары адрозніваюцца ад беларускіх?

**4 сакавіка Расія будзе абіраць прэзідэнта. У выбарах возьмуць удзел пяць кандыдатаў.**

Сярод іх былы кіраўнік краіны і сённяшні прэм'ер-міністр Уладзімір Пуцін, традыцыйныя спарынг-партнёры камуніст Генадзь Зюганаў і «ліберальны дэмакрат» Уладзімір Жырыноўскі, эсэр Сяргей Міронаў і алігарх Міхаіл Прохараў.

Апазіцыя заклікае галасаваць за каго заўгодна, апроч Пуціна. Тым не менш, паводле апошніх сацыялагічных даследаванняў, прэм'ер-міністр набірае больш за 50%.

Шмат каму здаецца, што расійскія выбары падобныя да беларускіх, але пры больш дэталёвым разглядзе праяўляецца больш адрозненняў, чым падабенстваў.

**Расійскія выбары ў Беларусі**

Грамадзяне Расіі змогуць прагаласаваць на прэзідэнцкіх выбарах у сямі гарадах Беларусі.

**Мінск** — вул. Нававіленская, 1а, пасольства РФ у Беларусі;

**Віцебск** — вул. Маякоўскага, 1, гарадскі цэнтр культуры;

**Гомель** — вул. Ірынінская, 16, гарадскі цэнтр культуры;

**Магілёў** — вул. Ленінская, 61, ліцэй Беларуска-расійскага ўніверсітэта;

**Бабруйск** — вул. Сацыялістычная, 90, філіял Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта;

**Брэст** — вул. Пушкінская, 10, генеральнае консульства Расіі;

**Гродна** — пл. Тызенгаўза, 5, Гродзенская дзіцячая школа мастацтваў.

### 1. Вэб-камеры і празрыстыя скрыні

91400 выбарчых участкаў у Расіі будуць абсталяваныя вэб-камерамі. Каб была магчымасць проста ў рэжыме рэальнага часу сачыць за галасаваннем на ўчастках. Зрабіць гэта загадаў асабіста Пуцін.

Праціўнікі ўлады раскрытыкавалі гэтую ініцыятыву, як прафанацыю і выкідванне на вецер бюджэтных сродкаў. Сусветныя агенцтвы абляцелі фотаздымкі, як вэб-камеры ўсталёўваюць у глухіх вёсачках Сібіры.




**У сельскім клубе вёскі Вялікія Кучкі (Омская вобласць) усталёўваюць вэб-камеру для назірання за выбарамі.**

На траціне ўчасткаў краіны будуць усталяваныя празрыстыя скрыні. Найперш яны будуць усталяваныя ў буйных гарадах — Маскве, Санкт-Пецярбургу. «Гэта зроблена для таго, каб прадухіліць укідванне ў скрыні пачкаў бюлетэняў яшчэ да пачатку галасавання», — адзначыў старшыня расійскага ЦВК Уладзімір Чураў.

У Беларусі ж няма ні скрыняў, ні вэб-камераў. Перад выбарамі-2010 наш ЦВК тлумачыў, што на празрыстыя скрыні няма грошай, але ў той жа час камісія не гатовая прымаць дапамогу ад бізнэсоўцаў.

### 2. Датэрміновае галасаванне

Ёсць меркаванне, што менавіта з бюлетэнямі тых, хто прыйшоў на выбары датэрмінова, лягчэй рабіць фальсіфікацыі. Апазіцыя пастаянна заклікае прыходзіць на ўчасткі толькі ў асноўны дзень галасавання. На апошніх мясцовых выбарах здаралася, што дэмакратычныя кандыдаты выйгравалі ў канкурэнтаў у дзень выбараў, але прайгравалі з улікам датэрміновых галасоў.

На прэзідэнцкіх выбарах 2010 года ў Беларусі раней прызначанага часу прагаласавала 23%, а ў 2006 — 31%. У інтэрнатах, на заводах адміністрацыя заклікае галасаваць датэрмінова. Гэта выклікае шмат падазрэнняў.

Што датычыць Расіі, то ў датэрміновым галасаванні, якое пачалося яшчэ 17 лютага, удзел узняло менш за 1% выбарцаў.

### 3. Назіранне

За падлікам галасоў у Расіі маюць права сачыць як сябры выбарчай камісіі, так і назіральнікі (расійскія і міжнародныя), давераныя асобы кандыдатаў.

У Беларусі ёсць права назіральнікаў «сачыць за падлікам галасоў з месца, якое не замінае працы сяброў камісіі». Яны так шчыльна абступаюць стол пры падліку галасоў, што ўбачыць напісанае на бюлетэнях станавілася справай амаль нерэальнай.

Назіральнікам у Расіі дазволена весці відэа- і фотаздымкі.

### 4. Агітацыя

У адрозненне ад Беларусі, кандыдаты на прэзідэнта Расіі з'яўляюцца на рэспубліканскіх тэлеканалах не два разы падчас тэлевыступаў. Пра кандыдатаў нейтральна расказваюць у выпусках навінаў, там не прадстаўлены адзін Пуцін.

Яшчэ ёсць магчымасць трансляванне на TV агітацыйных ролікаў, якія паспявае вывучыць кожны выбарца. А не дазнаецца прозвішчы кандыдатаў з выпадкова атрыманай улёткі.

Усе кандыдаты бесперашкодна праводзяць мітынгі ў сваю падтрымку. Ды і не толькі кандыдаты. Апазіцыя, якая засталася на выбарах без сваіх прадстаўнікоў, таксама праводзіць дазволеныя ўладамі акцыі. Затрыманых на іх няма.

Свабоднай канкурэнцыі палітыкаў у Расіі яшчэ няма. Аднак і ўлада Пуціна не такая абсалютная, як у Лукашэнкі.

**Зміцер Панкавец**



**Жывы ланцуг супраць Пуціна**

На Садовым коле ў Маскве (кругавая транспартная магістраль у цэнтры расійскай сталіцы 15,6 км удоўжкі) апазіцыя зладзіла акцыю «Вялікае белае кола». Тысячы прыхільнікаў пераменаў сталі ўздоўж дарогі ў жывы ланцуг. Па сведчаннях відавочцаў, акцыя прайшла ўдала, кола замкнулася, за выняткам тых участкаў, дзе знаходзіцца скрыжаванні з іншымі магістралямі. Па ацэнках паліцыі, у акцыі ўзялі ўдзел 11 тысяч чалавек, аднак, паводле падлікаў арганізатараў, для таго, каб замкнуць кола, трэба было сабраць больш за 30 тысяч чалавек.

Пуцінцы паралельна правядзілі сваю нешматлюдную акцыю «Пуцін любіць усіх».

# Мясніковіч выраўноўвае паляну для пола ў Эміратах

**Прэм'ер-міністр запрасіў бізнесменаў Аб'яднаных Арабскіх Эміратаў узяць удзел у інвестпраектах у Беларусі.**

Умовы партнёрства абмяркоўваліся ў час перамоваў кіраўніка беларускага ўрада са старшынёй праўлення групы кампаній «Аль Хабтур» Халафам аль Хабтурам, якія прайшлі 24 лютага, паведамлялася са спасылкай на прэс-службу ўрада. «Эміратцы бок выказаў цікавасць да ўдзелу ў буйных інфраструктурных праектах у Беларусі. Таксама адзначана магчымасць прыцягнення да сумеснай работы партнёраў-кампаній з трэціх краін. Па выніках сустрэчы дасягнута дамоўленасць аб арганізацыі візіту ў Беларусь экспертаў групы кампаній «Аль-Хабтур» для прадметнага абмеркавання перспектыўных напрамкаў супрацоўніцтва, якія маюць узаемны інтарэс».

Група кампаній «Аль Хабтур» ахоплівае розныя сферы бізнесу: будаўніцтва, гасцінічную гаспадарку, аўтамабільны комплекс, нерухомую маёмасць, адукацыю, страхаванне і выдавецкую індустрыю. У ёй заняты больш як 40 тыс. чалавек. Будаўнічае падраздзяленне кампаніі з'яўляецца адным з буйнейшых забудоўшчыкаў на Блізкім Усходзе. У яго актыве больш як 30 буйных дзяржаўных кантрактаў. Кампанія прымала ўдзел у будаўніцтве сучаснага тэрмінала ў Дубайскім аэрапорце, а таксама шэрагу буйных гасцініц. У ліку апошніх праектаў кампаніі — будаўніцтва комплексу «Жамчужына Дубая» коштам $1,33 млрд.

Аўтамабільная падраздзяленне кампаніі мае эксклюзіўныя дылерскія правы на такія вядомыя маркі, як «Бэнтлі», «Бугаці», «Астан Марцін», «Міцубісі».

Група кампаній «Аль Хабтур» актыўна інвестуе ў замежныя рынкі. Рэалізуе буйныя праекты ў ЗША, Вялікабрытаніі, Францыі, Ліване, Іарданіі, Катары, Егіпце. Пасля зліцця з аўстралійскай кампаніяй «Лейтан Груп» «Аль Хабтур» пашырыла сферу дзейнасці па такіх напрамках, як энергетыка, дарожнае будаўніцтва, нафтахімія, здабыча карысных выкапняў.

**Tut.by**



**Экзатычны побыт прэм'ера ў арабскай краіне.**

# Галоўны малочнік Лукашэнкі

**Неспалучальны саюз рыбы і малака дапамагае Аляксандру Машэнскаму лічыцца трэцім бізнэсоўцам краіны.**

Машэнскія — адна з самых вядомых бізнэс-дынастый у Беларусі. Да славы Ротшыльдаў і Ракфелераў ім далёка, хоць абарот іх «Санта-Брэмара» і «Савушкавага прадукту» неўзабаве можа падысці да $1 мільярда за год. Іх паспяховасць пакуль лакальная. Імем заснавальніка імперыі, Міхаіла Машэнскага, названая вуліца ў Брэсце, што нібыта з'яўляецца адзіным выпадкам ушанавання памяці прыватніка на тэрыторыі СНД. А вось сын, Аляксандр Машэнскі, лічыцца трэцім па ўплывовасці бізнэсоўцам у краіне. І не хавае амбіцый.



Аляксандр Машэнскі — паспяховы прадаўжальнік справы бацькі

### Тры пакаленні Машэнскіх

Гісторыя сям'і ў Беларусі пачынаецца з постаці Леаніда Ісакавіча Машэнскага. Яго, франтавіка, узнагароджанага, сярод іншага, ордэнам Леніна, пасля вайны разам з сям'ёй накіравалі на працу ў Брэст. Тут ён стаў намеснікам дырэктара драматычнага тэатра, а пасля дырэктарам археалагічнага музея.

Ягоны сын, заснавальнік «Санта-Брэмара» Міхаіл, нарадзіўся ў 1947 у невялікай вёсцы Буравеснік на Курыльскіх астравах. Можа, менавіта гэтым тлумачыцца яго схільнасць да рыбы? Тым не менш, ён вырашыў звязаць жыццё з чыгункай, атрымаў у Брэсце адукацыю інжынера-электрыка і ўладкаваўся ў канструктарскае бюро на мясцовы электрамеханічны завод. Там Машэнскі-сярэдні адпрацаваў аж но 22 гады, да развалу СССР. Дарэчы, яго сястра Мая жыве ў Ізраілі.

Калі Беларусь здабывала незалежнасць, Аляксандр Машэнскі, прадстаўнік трэцяга пакалення, якраз скончаў вучобу ў Мінску, на механіка-матэматычным факультэце БДУ. Але пайсці па слядах бацькі і прысвяціць усё жыццё аднаму прадпрыемству ён не рашыўся. Быў пачатак 1990-х — час, калі можна было рызыкнуць і атрымаць вялікі куш.

**Самыя дарагія беларускія брэнды-2011**

1) Санта-Брэмар. Кошт брэнда — $72,5 мільёна (год таму — 2-е месца).

...

4) Савушкаў прадукт. Кошт брэнда — $50 мільёнаў (год таму — 7-е месца).

**Прыбытковасць «Савушкавага прадукту»**

студзень-верасень 2011 — $25 мільёнаў

2010 год — $2,2 мільёна

### Няўдалы вопыт крэветак і поспех селядца

Прадаўшы брэсцкую кватэру, 45-гадовы бацька і 22-гадовы сын у 1992 стварылі кампанію «Ніла», якая ва ўмовах дэфіцыту занялася імпартам замарожанай рыбы і прадуктаў мора з Еўропы. Неўзабаве быў знойдзены замежны інвестар, галандская кампанія L.Kok Seafood.

Разам з галандцамі Міхаіл Машэнскі заснаваў «Санта Імпэкс Брэст», якое занялося перапрацоўкай крэветак, вельмі нявдзячнай і шкоднай для рук работнікаў працай. Морапрадукты завозіліся ў Брэст, ачышчаліся ад панцыраў і адпраўляліся на продаж у Еўропу. Прыбытковая бізнэсідэя праіснавала нядоўга. Галандцы зразумелі, што працоўная сіла ва Украіне нават таннейшая за беларускую, таму перанеслі вытворчасць.

Тады ўся ўвага Машэнскага пераключылася на селядзец. Ён пачаў прадаваць гатовае да ўжывання філе пад брэндам «Маціяс».

Малодшае пакаленне ўжо не памятае, што ў савецкі час селядзец найчасцей прадавалі цэлым, і жанчыны самі яго чысцілі і запраўлялі. Гэта займала часу. Машэнскія перанеслі ў Беларусь заходнюю тэхналогію ачысткі селядца, перапрацоўкі ў філе і продажу ў герметычнай упакоўцы.

Для таго каб пашырыць вытворчасць, былі патрэбныя грошы. Бізнэсовец назбіраў $750 тысяч сваіх грошай, столькі ж далі нямецкія партнёры і яшчэ $4,5 мільёна даў у крэдыт Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця. Еўрапейцы ўкладалі грошы ў станаўленне прыватнага беларускага бізнэсу.

Супольнае прадпрыемства было заснавана на тэрыторыі свабоднай эканамічнай зоны «Брэст» у 1998 годзе і атрымала назву «Санта Брэмар». «Гэта была такая святая ў Галандыі, якая чакала маракоў, калі яны вярталіся з уловам», — расказваў пра значэнне назвы Машэнскі-малодшы. Дарэчы, сям'я ўзяла сабе 51% акцый, рэшта засталася ў немцаў.

### Самастойнае плаванне

У самым канцы тысячагоддзя лёс разбіў сямейны дуэт бацькі і сына.

За грошы здароўя не купіш. Міхаіл Машэнскі ў 2000-м перанёс два інфаркты і памёр. У Брэсце засталася па ім добрая памяць.

Аляксандр стаў адзіным уладальнікам бізнэсу. І 30-гадовы новы бос здолеў не толькі ўтрымаць справу ў сваіх руках, а і развіць.

Ён вырашыў рухацца курсам, які пачаў бацька. Вытворчасць разрасталася, застаючыся толькі рыбнай. З гэтым часам звязаная гісторыя ікры мойвы, якая з гонарам расказваецца супрацоўнікамі «Санта-Брэмара». Гэты спецыфічны ісландскі прадукт не карыстаўся асаблівым попытам у свеце — яго куплялі толькі японцы, бо верылі ў яе ўплыў на мужчынскую патэнцыю. Машэнскі ж прыдумаў выпускаць яе ў якасці бутэрброднай пасты і адразу захапіў гэты рынак і ў Беларусі, і ў Расіі, і ва Украіне. За такія заслугі перад ісландскай эканомікай яго прызначылі ганаровым консулам гэтай краіны ў Беларусі.

Апісваць рыбныя поспехі Машэнскага можна доўга, але дастаткова пералічыць некаторыя брэнды яго бізнэс-імперыі, каб зразумець яе ўсёабдымнасць. Марожанае «Юкі» («Топ», «Салета»), пельмені «Бабуля Аня», варэнікі «Энікі-Бэнікі»... І гэта апроч салатаў, марской капусты, пітной вады і безлічы рыбных прадуктаў. Агульны абарот кампаніі ацэньваецца прыблізна ў $300—350 мільёнаў.

На ўскраіне Брэста, каля ракі Мухавец кампанія Машэнскага будуе элітны катэджавы пасёлак. Там будуць жыць супрацоўнікі «Санта-Брэмара», у тым ліку і сам мільянер, і дырэктар «Савушкавага прадукту» Аляксандр Саўчыц.

### Малочны бераг

Сваю другую палову бізнэс-імперыі, малочную, Машэнскі здабыў у 2006 годзе, калі купіў 75% ААТ «Савушкаў прадукт». Астатнія акцыі размеркаваныя паміж дзяржавай, 55 калгасамі-пастаўшчыкамі і мноствам юрыдычных і фізічных асобаў.

**Прадаўшы кватэру, інжынер электра-механічнага завода напачатку 1990-х заняўся імпартам замарожанай рыбы**

«Савушкаў прадукт» — гэта былы Брэсцкі малочны камбінат, прыватызаваны ў 1994 годзе. Ягоны дырэктар, 58-гадовы Аляксандр Саўчыц, працуе на прадпрыемстве з дня яго заснавання — з 1976. Цікава, што вышэйшая адукацыя ў яго — педагагічная завочная. Так ці інакш, але на чале з Саўчыцам, які знаходзіцца ў рэйтынгу паспяховасці беларускіх бізнэсоўцаў на 89-м месцы, малаказавод стаў найбуйнейшым вытворцам малочнай прадукцыі ў краіне. Ягоныя асноўныя брэнды — малочныя «Брэст-Літоўскі», «Монцік», «Ласкавае лета», а таксама сокі «Сапраўдны» ды «і-Фрукт».

З прыходам Машэнскага, які ўжо меў «рыбныя» сувязі з Расіяй, «Савушкаў прадукт» пачаў імкліва павялічваць сваю долю на расійскім рынку.

### Экспартная перавага

Малочная прамысловасць у Беларусі стала прыбытковай літаральна год таму. Яшчэ пазалетась у спісе самых стратных акцыянерных таварыстваў былі спрэс малаказаводы. Пасля дэвальвацыі закупныя цэны трохі выраслі, але праз розніцу цэнаў у Беларусі і суседніх краінах «малочнікі» атрымалі выдатную магчымасць для прыбытку.



Аляксандр Саўчыц — нязменны дырэктар «Савушкавага прадукту»

У 2010 было экспартавана 550 тысяч тон малака, масла, тварага і сыроў — гэта 5% ад сусветнага рынку. Але спажывец беларускай прадукцыі фактычна адзін — 90% экспартаванага тавару адпраўляецца ў Расію.

«Савушкаў прадукт», зварот якога складае каля $250 мільёнаў штогод, канкуруе на расійскім рынку з карпарацыямі «Danone-Юнімілк» і «Вім-Біль-Дан». Тое самае, толькі ў меншых аб'ёмах паставак, робяць і іншыя беларускія малаказаводы. Каб аб'яднаць іх высілкі і атрымаць частку прыбытку, Аляксандр Лукашэнка вырашыў стварыць «Аб'яднаную малочную кампанію». Яе з'яўленне на базе «Савушкавага прадукту» чакалася яшчэ ў канцы мінулага года, але планы адклаліся.

### Без дапамогі, але са згоды

Свой бізнэс Машэнскія стварылі з нуля, не ўзяўшы ў дзяржавы ні рубля. Але ў краіне з аўтарытарным кіраваннем эканомікай застацца ў баку ад палітыкі немагчыма. Як адбываліся конкурсы Кіраўніцтва справамі прэзідэнта, на якіх «Санта-Брэмар» атрымліваў немалыя квоты на імпарт рыбы? Пытанне, адказ на якое невядомы.

Машэнскі-бацька імкнуўся абмінаць палітыку, чаго нельга сказаць пра сына. Падкрэсліць сваю глыбокую павагу да ўлады таксама трэба ўмець. Калі з аглядам на прадпрыемства прыехаў Аляксандр Лукашэнка, Машэнскі-малодшы вынес яму ў падарунак карпаратыўны сцяг кампаніі. За гэта ён, адзіны кіраўнік прыватнай кампаніі, атрымаў дазвол павесіць чырвона-зялёны сцяг над уваходам на прадпрыемства. Давераная асоба кандыдата ў прэзідэнты Аляксандра Лукашэнкі на выбарах-2010, удзельнік усебеларускага народнага сходу, сябра рэспубліканскай рады «Белай Русі» — усё гэта каштуе для беларускіх бізнэсоўцаў нямала.

Магчыма, Аб'яднаную малочную кампанію ўзначаліць менавіта Аляксандр Машэнскі.

**Ягор Марціновіч**

# Рэзідэнцыю на Мінскім моры дабудавалі

Расійская «Ітэра» сыходзіць з Беларусі, затое пакідае **таямнічы жылы комплекс** за калючым дротам.



Від са спадарожніка.

Пра новую таямнічую рэзідэнцыю, якая будуецца на беразе Мінскага мора, «Наша Ніва» ўпершыню напісала ў ліпені 2011 года. Тады чытач паведаміў нам пра «новыя Дразды» — невялікі раён на пяць домікаў. У ім нібыта мусілі быць фізкультурна-аздараўляльны комплекс з лазняй і басейнам, гаражы, вальеры для сабак, фантаны і шмат іншых прыемнасцяў.

У лесе каля Мінскага мора, якраз у водаахоўнай зонай, дзе будаўніцтва забаронена, знайшоўся той самы жылы комплекс «Усход». Дарога да яго пачынаецца насупраць указальніка да рэабілітацыйнага


**Рэзідэнцыя выглядае, як турма: відэаназіранне, калючы дрот і папярэджанне «Праход забаронены».**

цэнтра для ветэранаў вайны ў некалькіх кіламетрах ад рэзідэнцыі Заслаўе-1.

Элітная будоўля тады яшчэ працягвалася. Таямнічы забудоўшчык — СААТ «УсходБел» — не меў не тое што ніводнага пабудаванага аб'екта, але і нават уласнага сайта у інтэрнэце. Затое па «выпадковым» супадзенні юрыдычны адрас цалкам супадаў з каардынатамі кампаніі «ІтэраБел», якая атрымала ўчастак пад бізнэс-квартал «Мінск-Сіці». А вось будаўнічыя працы, напрыклад, праводзіла ТАА ТДТ, якое дагэтуль вызваленае ад падатку на прыбытак як удзельнік будаўніцтва «Мінск-Сіці». Гэтыя факты ўскосна пацвярджалі інфармацыю, што рэзідэнцыя на Мінскім моры пабудавана расійскай «Ітэрай» узамен на ласы кавалак пасярод Мінска.

Цяпер, калі расіяне не паразумеліся з беларускімі ўладамі і аказаліся выкінутыя з рэалізацыі «Мінск-Сіці», мы вырашылі яшчэ раз палюбавацца на новую рэзідэнцыю.

З часу папярэдняй паездкі прайшло больш чым паўгода. За гэты час на павароце да «Усхода» з'явіўся знак «Рух забаронены». Забаранілі, дарэчы, і спыняцца на дарозе.

Кіруемся знаёмым маршрутам. Ужо здалёк відаць, што адбыліся істотныя змены. Папершае, усе часовыя пабудовы зніклі разам з пашпартам аб'екта, вызваліўшы месца пад міні-стаянку для аўтамабіляў. Па-другое, па ўсім перыметры агароджы з'явіўся калючы дрот — відаць, гасцей ва «Усходзе» не чакаюць. Каб папярэдзіць іх з'яўленне, расстаўленыя і камеры відэаназірання. А каб зусім застрашыць выпадковых мінакоў, вісяць таблічкі «Забароненая зона. Праход забаронены».


**Рэндары аднаго з распрацоўшчыкаў праекта.**

Адметна, што рамонтнікі, якія круцяцца побач з дарогай, не задумваючыся, называюць комплекс «рэзідэнцыяй». «Як ты кажаш? «Усход»? — смяюцца яны. — Рэзідэнцыя гэта, што ж яшчэ».

На спадарожнікавым здымку можна разглядзець, што будаўнікі дарабілі ў элітным пасёлку міні-футбольнае поле і басейн, каб гаспадары «маёнткаў» маглі займацца спортам. Разабраць астатнія здымкі складаней, але, як і пісаў наш чытач год таму, тры вялікія дамы тут ёсць.

Ахоўнікі на ўваходзе ў комплекс нешматслоўныя. «Пакіньце, калі ласка, тэрыторыю. Мы не ўпаўнаважаныя з вамі размаўляць», — адказваюць яны на ўсе пытанні, так і не намякнуўшы, што за вялікая сям'я хаваецца за калючым дротам рэзідэнцыі, якую ахоўваюць з прэзідэнцкім размахам.

**Ягор Марціновіч**


**Элітныя катэджы хаваюцца за дрэвамі і трохметровым плотам.**

# Два гады турмы за сцяг

Сяргею Каваленку вынеслі **жорсткі прысуд**.

Пракурор прасіў пакараць віцебскага сябра КХП-БНФ 2 гадамі і 9 месяцамі. Суддзя Алена Жук кіравалася прынцыпам «гуманнасці» і вынесла прысуд — 2 гады і 1 месяц калоніі агульнага рэжыму.

Каваленку прызналі вінаватым у парушэнні рэжыму «хатняй хіміі», прысуджанай яму ў 2010 за вывешаны на гарадской навагодняй яліне бел-чырвона-белы сцяг. Падставай для крымінальнай справы, па версіі следства, сталі парушэнні, якія здзейсніў Каваленка. Супрацоўнікі інспекцыі па выкананні пакаранняў зафіксавалі спазненне актывіста дадому.

Мужчыну таксама прызналі вінаватым у дробным хуліганстве — абразе супрацоўніка інспекцыі, за што ён атрымаў 4 базавыя велічыні штрафу. 24 сакавіка Сяргея затрымалі з нацыянальнымі штандарамі ў Віцебску і асудзілі на 7 сутак. Пасля выхаду арыштавалі паўторна на 15 сутак. Падстава — парушэнне рэжыму адбыцця пакарання.

У Каваленкі двое дзяцей, жонка сядзіць дома з сямімесячнай дачкой. Сям'ю забяспечваў Сяргей, які працаваў будаўніком як прыватны прадпрымальнік.

Каваленка з адвакатам збіраюцца абскарджваць прысуд.

**Кастусь Матушыч**


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Алена Каваленка просіць мужа спыніць галадоўку. 21 лютага, Віцебск.

# «...І сядаюць за стол перамоваў са здраднікамі»

Ігар Аліневіч назваў **абсурднай сітуацыю** вакол палітвязняў.


На лаве падсудных. Злева направа: Мікалай Дзядок, Аляксандр Францкевіч і Ігар Аліневіч.

Мікалай Дзядок і Ігар Аліневіч асуджаны на 4,5 і 8 гадоў адпаведна па справе мінскіх анархістаў. Іх абвінавацілі ў арганізацыі шэрагу акцый у 2009—2010: антымілітарысцкага шэсця пад Мінабароны, нападзе на казіно «Шангры Ла», падпале дзвярэй філіяла «Беларусбанка», нападзе на пасольства Расіі ў Мінску, нападзе на ізалятар на Акрэсціна. Вінаватымі сябе не прызналі.

Кароткатэрміновае спатканне з Ігарам Аліневічам мела яго маці Валянціна. «Нічога новага пра сябе не расказваў, але надта цікавіўся тым, што адбываецца на волі. Часам складалася ўражанне, што адтуль значна далей і глыбей відаць, чым нам. Прынамсі, яшчэ ўвосень ён ужо не меў ніякіх ілюзій наконт вызвалення палітвязняў. Па-ранейшаму, зносіны абмежаваныя. Яму дазволілі патэлефанаваць толькі адзін раз за восем месяцаў, якія ён знаходзіцца ў калоніі. Тлумачаць тэхнічнай незабяспечанасцю альбо зусім не тлумачаць».

Па словах Ігара, «на волі складаецца парадаксальная сітуацыя. Людзі з такім запалам абмяркоўваюць і каментуюць, хто і як адбывае тэрміны зняволення, а самі сядаюць за стол перамоваў са здраднікамі».

Жонка Мікалая Дзядка Валерыя вярнулася з доўгатэрміновага спаткання з мужам. «Пачуваецца ён добра і маральна, і фізічна. На дадзены момант у яго агулам пяць парушэнняў. Звычайна кожнае парушэнне трымаецца паўгода. Каб яго зняць датэрмінова, трэба быць вельмі прыхільным да адміністрацыі і быць «актывістам».

> « Адтуль далей і глыбей відаць

Апошняе парушэнне заканчваецца дзесьці ў канцы мая, калі, канечне, не дадасца новых. Тады, магчыма, яму зноў дазволяць атаварвацца на 5 базавых велічыняў (цяпер толькі на адну). З сакавіка ў яго надыходзіць тэрмін, калі можна падаваць дакументы на замену пакарання на больш мяккае. Казаў, што парушэнні таксама закранаюць грамадскае жыццё ў калоніі — яму забаронена наведваць канцэрты і купляць торцікі на святы».

Валерыя паведаміла, што ўжо больш за 2 месяцы яны чакаюць адказу з Вярхоўнага суда на абскарджванне прысуду. Але безвынікова.

Мікалай чуў пра выказванні палкоўніка Уладзіміра Барадача і Зянона Пазняка, якія не асуджаюць прашэнні аб памілаванні. Маўляў, усе ведаюць на волі, у якіх умовах тыя прашэнні выбіваюцца. Да палітвязняў, асуджаных не за Плошчу, праўда, у калоніях увага меншая. Па словах Дзядка, яму толькі адзін раз наўпрост прапанавалі падпісаць прашэнне аб памілаванні, яшчэ ўвосень. А месяц таму такая прапанова паступіла «ўскосна, намёкам» на сустрэчы з супрацоўнікамі ГУБАЗ, якія прыязджалі ў калонію.

Мікалай лічыць, што «пісаць альбо не пісаць — асабісты маральна-этычны выбар кожнага. Але ўзгадаем сталінскія і савецкія часы ў цэлым. Тады апаненты ўлады сядзелі тэрміны па 20, 25 гадоў у сапраўды пякельных умовах. І не скардзіліся, бо не было каму. Трывалі і заставаліся людзьмі. Вось з каго трэба браць прыклад. А для мяне прасіць аб літасці ў тых, супраць каго выступаеш, непрымальна. Ды і непаслядоўна», — напісаў Дзядок у лісце ў Рэдакцыю.

**Сяргей Макарэвіч**

# Дэкан БДУ заступіўся за асуджаную студэнтку

**Яе затрымлівалі** 19 снежня.



Святлану Задзядзюрыну, студэнтку 4 курса фізфака БДУ, асудзілі за акцыю 19 снежня 2011. Сама ж яна адмаўляе свой удзел.

Выпадак са Святланай — не ўнікальны ў беларускай судовай практыцы. Падчас мінулагодніх «маўклівых акцый» таксама затрымлівалі выпадковых мінакоў. Аднак цікава, што дзяўчына дамаглася перагляду сваёй справы, а дэканат з БДУ падтрымаў яе.

Святлана расказала пра акалічнасці свайго затрымання. Увечары 19 снежня яна вярталася дамоў з заняткаў. Апошняя пара, кантрольная па квантавай фізіцы, скончылася а сёмай. Дарога дадому пралягала праз плошчу Незалежнасці. На той момант яна не думала, што гадавіна выбараў і могуць быць нейкія акцыі.

«Ацвярозілі» дзяўчыну крыкі людзей ды фотаўспышкі ля Чырвонага касцёла. Яна патэлефанавала маці і дамовілася сустрэцца на Нямізе. Аднак не паспела. «Я азірнулася і ўбачыла, што да мяне едзе сіні «Фальксваген». Прайшло літаральна пару секунд, як два чалавекі схапілі мяне пад пахі і закінулі ў гэту машыну», — кажа Святлана.

Урэшце яе прывезлі ў Маскоўскі РАУС, склалі пратакол аб удзеле ў несанкцыянаваным пікеце. У ІЧУ на Акрэсціна прывезлі ў гадзіну ночы. Апроч яе ў камеры былі яшчэ 6 дзяўчат, затрыманых каля касёла.

На судзе супраць Святланы сведчыў міліцыянт, якога яна бачыла ўпершыню. Сведка не мог узгадаць, дзе ён затрымаў дзяўчыну і ў што тая была апранутая. «Пасля суда я радавалася, што мне не далі «суткі», — адзначае Святлана. Прысудзілі штраф 25 базавых велічыняў. На параду юрыста дзяўчына падала касацыйную скаргу. Мінскі гарадскі суд пастанавіў перагледзець справу, што здараецца рэдка.

**Аксана Рудовіч**

## Сцісла

### Бяляцкага этапавалі ў Бабруйск

На мінулым тыдні Алесь Бяляцкі знаходзіўся ў СІЗА на Валадарскага ў Мінску, куды яго перавялі з турмы ў Жодзіне. Цяпер, як паведамілі праваабаронцы, Бяляцкага этапавалі ў бабруйскую папраўчую калонію. Палітвязень знаходзіцца на каранціне.

Пісаць жа яму можна на адрас: 213800, Магілёўская вобл., г. Бабруйск, вул. Сікорскага, 1, Папраўчая калонія №2.

### Васьковіч складае радавод

Яўген Васьковіч даслаў ліст сваёй бабулі Тамары Уладзіміраўне. «Усё добра, са здароўем усё ў парадку. Адносіны з людзьмі добрыя, прыніжэнняў тут няма», — напісаў палітвязень. Ён адзначыў, што атрымаў ад бабулі Катэхізіс і каталіцкія абразкі, але ў яго забралі каталіцкі каляндарык. Асуджаны папрасіў даслаць яму звесткі пра ягоных продкаў і сваякоў, каб ён мог заняцца сваім радаводам, які не паспеў скласці на свабодзе.

### Галадоўкай адказалі на затрыманні

Актывістаў кампаніі «Гавары праўду» Паўла Вінаградава і Аляксандра Арцыбашава асудзілі на 10 сутак. Маладых людзей прызналі вінаватымі ў арганізацыі «цацачнай акцыі». Калі на прыпынку каля плошчы Незалежнасці ў Мінску пасадзілі цацкі з плакатамі ў руках. Прычым Арцыбашава затрымалі ў зале суда, калі ён перадаваў цыгарэты і сок Паўлу. Абодва актывісты абвясцілі галадоўку ў знак пратэсту супраць затрымання.

**КМ**

# Шматабяцальнае вяртанне Арамнава

**Алімпійскі чэмпіён перамог** на спаборніцтвах за Кубак Беларусі.

Напэўна, няма ў сённяшнім беларускім спорце атлета настолькі неадназначнага, як штангіст Андрэй Арамнаў. Самародак, якіх пашукаць, талент, але чалавек складанага характару і лёсу.

Чатыры гады таму на Алімпіядзе ў Пекіне гэты ўраджэнец Барысава змагаўся толькі з сабой, а не з супернікамі. Вынік — залаты медаль. Напэўна, у 20-гадовым веку не ўсе здольныя вынесці выпрабаванне славай.

Арамнава лавілі п'яным за перавышэнне хуткасці, пазбаўлялі правоў і прэзідэнцкай стыпендыі. На апошнім чэмпіянаце Еўропы яго злавілі за паленне марыхуаны, сам спартовец казаў, што гэткім чынам здымаў стрэс, бо ён «адзін на цэлым свеце і няма каму яго падтрымаць».

Арамнаў пайшоў у адкрытае супрацьстаянне з трэнерам зборнай Ганчаровым, якога называе непрафесіяналам і ў кожным інтэрв'ю кажа, што марыць прыбраць яго з пасады. Ягоных крыўдаў хапіла б на паўсвету.

На Кубку Беларусі Арамнаў выступаў не ў сваёй катэгорыі 105 кг, а сярод суперцяжаў. Аднак і там яму не было роўных. Ён падняў па выніках штуршка і рыўка 400 кілаграмаў. Пекінскую Алімпіяду ён выйграваў з вынікам 436. «Усё ідзе па плане», — кажа Андрэй. Да Лонданскіх Гульняў яшчэ застаецца час.

«Я на мяжы таго, што выйграю за Беларусь яшчэ пяць Алімпіяд ці скажу, што адмаўляюся плаваць у адной лужыне з гэтымі...» — казаў летам Арамнаў у інтэрв'ю «НН».

**Зміцер Панкавец**



Сяргей Гудзілін



# Сын Сумара стаў начальнікам Брэсцкай ДАІ

Дагэтуль Андрэй Сумар працаваў **начальнікам Камянецкага РАУС**.

24 лютага на пасаду начальніка Упраўлення Дзяржаўтаінспекцыі УУС Брэсцкага аблвыканкама прызначаны палкоўнік міліцыі Сумар Андрэй Канстанцінавіч — сын кіраўніка Брэсцкага аблвыканкама.

У органах унутраных спраў Андрэй Сумар са жніўня 1994 года. З сакавіка 2008 года — начальнік Камянецкага РАУС. Мае дзве вышэйшыя адукацыі. Жанаты, двое дзяцей.

Раней пасаду начальніка ДАІ займаў палкоўнік міліцыі Андрэй Мяхед.

**«Брестская газета»**

**Музыка**

# Вася Абломаў выступіць у Мінску

Аўтар хіта **«Еду ў Магадан»** і ўдзельнік антыпуцінскіх мітынгаў.

6 красавіка ў мінскім клубе Re:Public (Прытыцкага, 62) выступіць з канцэртам расійскі спявак Вася Абломаў. Кошт білетаў ад 100 да 180 тыс.

Вася Абломаў (сапр. Васіль Ганчароў, нар. у 1984) — адзін з лідараў расійскага нонканфармізму, аўтар песень сацыяльнага пратэсту. Аўтар хітоў «Еду ў Магадан» (што высмейвае масавую культуру Расіі, яго афіцыйны ролік на Ютубе прагледзелі больш за 2 млн чалавек), «Хто хоча стаць міліцыянерам», «Пальтае г...о».

У ліпені 2011 ён падпісаў паштоўку ў падтрымку беларускіх палітвязняў.

Браў удзел у сёлетніх антыпуцінскіх пратэстах, спяваў на мітынгах. Нядаўна запісаў новую песню пра расійскую палітычную зіму 2012 — «Намедні».

**АГ**





Звераў і Галіцына падобныя нават знешне.

# Звераў ажэніцца з беларускай спявачкай

«Кароль расійскага гламуру» Сяргей Звераў шакаваў прыхільнікаў, заявіўшы, што хутка мае намер ажаніцца. Да гэтага часу многія былі ўпэўненыя, што вядомага стыліста не цікавіць жаночы пол.

Абранніцай Зверава стала маладая беларуская спявачка Алена Галіцына.

Алена ўжо купіла шыкоўны шлюбны ўбор у адным з вясельных салонаў Масквы. Жаніх жа рыхтуе ашаламляльны строй, ад якога «ўсе будуць у шоку».

**Сямён Цыбульскі**



**Камертон Сяргея Ваганава**

# Забаронцы Айчыны

23 лютага, як, мусіць, і большая колькасць мужчын, ужо зранку я пачаў атрымліваць віншаванні ад родных і проста знаёмых жанчын. На маю сціплую заўвагу, што з прычыны адсутнасці арлінага зроку ні ў савецкім, ні, тым больш, у беларускім войску ніколі не служыў, жанчыны адказвалі, што гэта не мае ніякага значэння. «Мужчынскі дзень», — гаварылі яны. «Ну, так, — жартаваў я ў адказ. — Як у райцэнтраўскай лазні... Хутка будзе жаночы...»

Але большасцю жарт успрымаўся з насцярогай, як бышцам з чагосьці святога... «Мой дзед, — ледзь не пакрыўдзілася адна з віншавальніц, — чвэрць стагоддзя праслужыў у царскай арміі... А бацька — у польскай, загінуў ад немцаў... Нельга цурацца традыцый...»

Так, пагадзіўся я, нельга.

Але адна справа — традыцыі. Іншая — звычкі...

Савецкая ўлада знішчыла спрадвечныя традыцыі, а замест іх нарадзіла процьму святочных, кшталту дня 23 лютага, звычак. Але народная прага традыцый заўсёды была неўміручай. Толькі гэтым можна патлумачыць тую з'яву, што народ сам ператвараў звычкі ў традыцыі, надаючы ім зусім іншы, чалавечы, так бы мовіць, сэнс, і не вельмі абцяжарваючы сябе выпростваннем з блытаніны гістарычных падзей, урачыстых дат і пошукам уласнай Айчыны...

Лукашэнка ўчапіўся ў гэтую блытаніну, бо менавіта з яе нарадзіўся і на ёй трымаецца рэжым яго асабістай ўлады. Вынікам чаго з'явіўся самы вар'яцкі, можа, парадокс сучаснай беларускай гісторыі: вайна дзяржавы супраць Айчыны...

Ці не абвяшчэннем гэтай вайны з'явіўся сумнавядомы майскі рэферэндум-1995?! Вайны супраць такіх спрад-

## Нават Бацькам ужо амаль ніхто яго не кліча

вечных духоўных каштоўнасцяў, як родная мова, нацыянальныя сімвалы і святыні. Вайны супраць таго, з чаго складаецца пачуццё Айчыны...

Айчына, безумоўна, шырэйшая за дзяржаву, можа, нават зусім іншае паняцце. Калі дзяржава — палітычнае ўтварэнне, краіна — геаграфічнае, то Айчына альбо Бацькаўшчына — ад Айца... Ад продкаў, дзядоў, прадзедаў і бацькоў...

Спекулюючы на гістарычнай недасведчанасці насельніцтва, застрашваючы яго міфічнымі пагрозамі з боку нейкіх незразумелых «бэнэфаўцаў», дзяржава ў асобе Лукашэнкі доўгі час намагалася начапіць на сябе твар Айчыны. Але нічога, акрамя скажонага саўковай хлуснёй аблічча, не атрымалася. Нават Бацькам ужо амаль ніхто яго не кліча. Нездарма, віншуючы 23 лютага сваіх генералаў з новымі пагонамі, Лукашэнка абвясціў, што «дзяржава заўсёды будзе падтрымліваць сваіх абаронцаў». Заўважце, абаронцаў дзяржавы, а не Айчыны...

Насамрэч — *забаронцаў* Айчыны.

Дзе, у якой яшчэ краіне «абаронцы Айчыны» сілкуюцца іншаземнымі грашыма?

Дзе, у якой яшчэ краіне «абаронцы Айчыны» — ці то кіраўнік дзяржавы, ці то вайскоўцы з міліцыянтамі, ці то суддзі з пракурорамі ды іншыя памагатыя — пад рознымі хлуслівымі зачэпкамі цягнуць за краты тых, хто шануе нацыянальны герб і сцяг?

Суд над Сяргеем Каваленкам, безумоўна, працяг нескончонай ганебнай вайны дзяржавы супраць Айчыны.

Але ні забараніць, ні перамагчы Айчыну немагчыма.

Нават калі яна застанецца жыць у знясіленым целе апошняга яе абаронцы.

...На гэтай трохі пафаснай ноце я, магчыма, паставіў бы кропку, каб не гісторыя з касманаўтам Кавалёнкам, амаль цёзкам Сяргея па прозвішчу і, мабыць, сабратам па кавальскаму радаводу. Колькі бруду вылілі на яго зацятыя змагары толькі за тое, што ён адцураўся ад белчырвона-белага сцяга, маўляў, калабаранцкага, часоў нямецкай акупацыі...

Па-лукашэнкаўску абразліва ганіць савецкага беларуса, чыё дзяцінства, дарэчы, прайшло праз тую жахлівую акупацыю — не лепшы спосаб пераканаць яго, далучыць да сапраўднай гістарычнай спадчыны. Тым больш што ён сам ужо частка гэтай спадчыны.

Я добра памятаю сонечную раніцу ў вёсцы Белае пад Крупкамі, святочна-насцярожаны натоўп аднавяскоўцаў Кавалёнка і сакратара райкама, які, надрываючыся, цягнуў у беднаватую матчыну хату тэлевізар... Памыляюцца тыя, хто думае, што гэта быў усплёск так званага савецкага патрыятызму. Усе, партыйны сакратар таксама, адчулі гонар за беларуса і Беларусь...

Ёсць нешта глыбока агульнае паміж подзвігам Кавалёнка і патрыятычным учынкам Каваленкі — абодва, самаахвярна рызыкуючы, узнялі Айчыну да нябёс.

Астатняе — непаразуменне, якое, упэўнены, скончыцца, як толькі Айчына стане беларускай Дзяржавай.

*kamerton_41@mail.ru*

# Таемныя спружыны БТ

Іх удалося пабачыць падчас **публічнага «разбору палётаў»** «Еўрафэсту» з удзелам Лукашэнкі.




PHOTO.BYMEDIA.NET

Выбар кандыдата на «Еўрабачанне» скончыўся скандалам і піяр-акцыяй кіраўніка дзяржавы. Лукашэнка, выступаючы ў ролі арбітра, шматкроць паўтарыў слова «справядлівасць» і заявіў, што вынікі галасавання былі сфальсіфікаваныя. У Баку мае паехаць не народная артыстка Алёна Ланская, а гурт Litesound. Гучную нараду ў кіраўніка дзяржавы з удзелам кіраўніцтва Мінкульта, БТ, Дзяржкантролю, Адміністрацыі прэзідэнта паказвалі па тэлебачанні. З яе відаць, кім і як быў арганізаваны «Еўрафэст».

«Я папрасіў, не без згоды і жадання Аляксандра Шакуціна (старшыня рады дырэктараў ААТ «Амкадор»), каб ён, міністр культуры і кіраўнік Белтэлерадыёкампаніі арганізавалі годна гэты працэс у нашай краіне», — казаў Лукашэнка. На Шакуціна, Давыдзьку і Латушку ён і ўсклаў адказнасць за скандал: «Вы стварылі патавую сітуацыю, якая характарызуе ўсіх трох непрыстойна».

Аказваецца, гэта кіраўнік дзяржавы вырашыў, хто і як будзе абіраць кандыдата на «Еўрабачанне». Прычым адказ на пытанне «як» абумоўліваў вынік «конкурсу».

Лукашэнка задаволіў просьбу бізнэсоўца-мільянера (аказваецца, гэты капіталіст мае з ім шчыльны кантакт). А Шакуцін арганізоўваў і аплачваў конкурс. І той самы Шакуцін апекаваўся адной з удзельніц, якая ў 26 гадоў стала заслужанай артысткай. У выніку «конкурсу» Ланскую называюць пераможцай.

Але зрабілі памылку: выбралі ёй занадта моцных спарынг-партнёраў. Трэ было б кагосьці зусім бяздарнага. Узнік скандал — інтэрнэт робіць магчымым хуткі распаўсюд навін.

«Як мяне інфармуюць ужо дзве групы, якія па маім даручэнні гэтым займаліся, вынікі фіналу конкурсу аказаліся падтасаванымі, — казаў Лукашэнка. — Падставілі таленавітую спявачку. І пакрыўдзілі гэтых хлопцаў».

Лукашэнка адзначыў, што другое пытанне — гэта фінансавы бок, які ён даручыў адначасова разгледзець. «Я здзіўлены, Генадзь Браніслававіч [старшыня Белтэлерадыёкампаніі Давыдзька «НН»], вы кожны дзень мне пішаце лісты аб цяжкім фінансавым стане вашай кампаніі. І тым не менш марнуеце мільярды рублёў незразумела на што. Журналісты скардзяцца — зарплату не плаціце як паложана».

### Латушка ледзь не стаў ахвярай

Як далажыў міністр культуры, а таксама старшыня аргкамітэта праекта «Еўрафэст» Павел Латушка, ні ён, ні на яго не аказвалася ні найменшага ціску пры вызначэнні пераможцы.

Латушка мог аказацца выпадковай ахвярай аферы, у якой быў усяго толькі вясельным маршалкам. Для таго, каб падобная сітуацыя ў будучыні не паўтарылася, міністр прапанаваў выразна прапісваць прававую працэдуру падліку і кантролю галасавання. У склад камісіі па падліку галасоў тэлегледачоў у абавязковым парадку ўключаць па адным прадстаўніку ад кожнага фіналіста. Неабходна забяспечыць і дэманстрацыю галасавання ў жывым эфіры.

### Так бы на ўсіх выбарах

Першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Аляксандр Радзькоў, які ўзначаліў камісію па расследаванні справы «Еўрафэсту», паведаміў, на якім этапе адбыліся маніпуляцыі: «Вынікі галасавання журы сфальсіфікаваныя не былі». Па выніках галасавання членаў журы на першым месцы была група Litesound, на другім — Алёна Ланская.

Пасля заканчэння працы журы на працягу 15 хвілін ішло галасаванне тэлегледачоў. «Былі адказныя асобы, перш за ўсё работнікі Белтэлерадыёкампаніі, якія як сістэмныя адміністратары адказвалі за падлік галасоў і сядзелі за камп'ютарамі. Гэта было ў перасоўнай тэлестанцыі. Там прысутнічалі 7 чалавек. Ход галасавання абмяркоўваўся, быў адкрыты. Па званках тэлегледачоў і СМС група Litesound абыходзіла Ланскую, — расказаў Радзькоў. — Пасля падвядзення вынікаў у станцыю прыйшоў прадзюсар Дзмітрый Баранаў, яму далажылі сапраўдную карціну. Ён загадаў [sic!], каб далі вынікі, у адпаведнасці з якімі пераможцай была б Алёна Ланская».

Але работнікі, якія знаходзіліся ў перасоўнай тэлестанцыі, захавалі на флэш-карце сапраўдныя дадзеныя. «Мы праверылі праз сервер «Белтэлекам». Яны дакладна супадаюць з тым, што было на флэшцы. Перамагла група Litesound з розніцай амаль у 2 тыс. галасоў. Вынікі галасавання тэлегледачоў былі сфальсіфікаваныя», — канстатаваў Радзькоў.

Прыходзіць у галаву, што, калі б захоўваліся бюлетэні прэзідэнцкіх выбараў, можна было б лёгка праверыць лічбы, якія агучваюцца выбарчымі камісіямі.

### Пакаранне Дзяржкантролем

Звяртаючыся да намесніка прэм'ер-міністра Анатоля Тозіка, кіраўнік дзяржавы падкрэсліў: «Гэта ваша пытанне — фінансавае. Адміністрацыя прэзідэнта адказвае за ідэалагічны складнік. Вы грошы там палічылі, пракантралявалі разам з профільным міністрам ці хаця б наўпрост?»

«На жаль, не займаліся гэтым. Лічылі, што гэта не наша поле дзейнасці. Зробім высновы», — адказаў Анатоль Тозік.

«Запрасілі вялікіх зорак, заплацілі ім немалыя грошы. Калі мы такія бедныя, дык давайце мы гэтыя грошы ўкладзем у сваіх. Няхай нашы выйдуць і праспяваюць. Тая ж Афанасьева, Саладуха, Дарафеева», — Лукашэнка сказаў тое, што павінна спадабацца мінскай поп-тусоўцы.

«Накіруйце па фінансавых пытаннях туды Камітэт дзяржкантролю, і хай мне наўпрост дакладваюць, што там адбываецца», — даручыў ён.

За няўменне арганізаваць элегантную перамогу Ланскай БТ заплаціць нервамі — праверка Дзяржкантролю.

Давыдзька паабяцаў зменшыць амбітнасць планаў Белтэлерадыёкампаніі і аптымальна выдаткоўваць сродкі.

Лукашэнка таксама адзначыў: «Заахвочванне ўдзельніка «Еўрабачання» залежыць ад таго, як ён там выступіць, якое зойме месца. Дакладна, як у спорце. Вынік на стол — атрымлівай і матэрыяльнае, і маральнае ўзнагароджанне, як гэта было з Вікторыяй Азаранкай, Дар'яй Домрачавай, Кацярынай Карстэн і многімі іншымі». Можна падумаць, што Азаранка, маючы мільёны даляраў ганарараў і жывучы ў Монтэ-Карла, мае патрэбу ў матэрыяльных і маральных узнагародах ад намеснікаў па ідэалогіі.

**Мікола Бугай**

# Ахвярны Баранаў

Каманда «Еўрафэсту» **не верыць**, што прадзюсар загадаў фальсіфікаваць вынікі.

Першы намеснік Адміністрацыі прэзідэнта Аляксандр Радзькоў падчас нарады ў Лукашэнкі, прысвечанай вынікам «Еўрафэсту», заявіў, што менавіта Дзмітрый Баранаў, выканаўчы прадзюсар канала «Беларусь-1», даў загад сфальсіфікаваць вынікі глядацкага галасавання на карысць Ланской.

Баранаў, канцэртны дырэктар дуэта Ціхановіча і Паплаўскай, апошнія пяць гадоў правёў на Белтэлерадыёкампаніі, працаваў з будучымі ўдзельнікамі «Еўрабачання». Ён займаўся арганізацыйнымі пытаннямі. Не без ягонай дапамогі ў Еўропу трапілі Руслан Аляхно, Пятро Ялфімаў і Дзмітрый Калдун.

Прадзюсар Ялфімава Таццяна Касмачова, праўда, ад гэтай супрацы не ў захапленні: «Дзякуй Богу, шчыльна разам мы не працавалі ніколі. Што тычыцца сітуацыі з падтасоўкамі на «Еўрафэсце», я вельмі ўсцешаная, што справядлівасць перамагла. Ці адзін Баранаў вінаваты? Ведаеце, я трымаюся таго самага меркавання, якое цяпер мае большасць».



**Наста Ціхановіч лічыць сітуацыю з Баранавым «падставай».**

Калегі ж Баранава не вераць у тое, што ён мог падстроіць фальсіфікацыі. «Мы, уся каманда «Еўрафэсту», усе занятыя на праекце людзі абсалютна пэўныя, што Баранаў не мае да гэтай сітуацыі ніякага дачынення», — кажа прадзюсар фэсту Наста Ціхановіч. На пытанне, з чыёй падачы былі сфальсіфікаваныя вынікі галасавання, яна адказаць не можа, адзначае толькі, што «тое, што адбываецца зараз у дачыненні да Дзмітрыя, гэта проста жудасная несправядлівасць. Падстава, можна сказаць. Мы з ім працуем столькі гадоў, уся каманда яму верыць. Зараз мы маральна яго падтрымліваем і ў любым разе будзем на яго баку».

Не ведае спн.Ціхановіч і таго, ці будзе Баранаў звольнены: «Ніхто з намі гэта не абмяркоўваў».

**Юрась Ускоў**

# «А ў мяне сям'я, двое дзяцей…»

**Асуджаны міліцыянт Лінкус не прызнае сябе вінаватым ні ў чым.**

Карэспандэнт «НН» патэлефанаваў былому начальніку Гродзенскага абласнога ўпраўлення Дэпартамента аховы МУС Дзінасу Лінкусу. На мінулым тыдні яго асудзілі на 4 гады калоніі ўзмоцненага рэжыму. Ён абвінавачваўся ў збіцці свайго падначаленага — начальніка Шчучынскага раённага Дэпартамента аховы Аляксея Сяргея.

**«Наша Ніва»: Дзінас, будзеце абскарджваць прысуд?**

**Дзінас Лінкус:** Так. Гэтая сітуацыя цягнецца амаль восем месяцаў. А ў мяне сям'я, двое дзяцей...

**«НН»: Вінаватым Вы сябе не прызналі. Што, па-Вашаму, адбылося тады з падначаленым?**

**ДЛ:** Доўга расказваць. У абскарджванні буду даваць ацэнку доказам, прадстаўленым на судзе.

Цялесныя пашкоджанні былі нанесены ў той вечар не мной, а іншым чалавекам. Я ведаю, хто гэта, але не буду называць, каб не палічылі за паклёп. А праз два дні, калі я з'ехаў у адпачынак, усю віну ў маю адсутнасць вырашылі перакласці на мяне.

Мы разбіраліся з падначаленым. Ён быў п'яны. Гэта бачылі іншыя... Але абвінавачванне на судзе будавалася толькі на паказаннях пацярпелага і заключэнні экспертызы.

**«НН»: Журналістка Вольга Карач напісала, што падчас леташняга затрымання ў Мінску Вы яе ўдарылі, пагражалі гвалтам. Гэта праўда?**

**ДЛ:** Да гэтага выпадку Карач толькі раз недзе выступіла з чымсьці падобным. Цяпер, калі ўзнікла такая сітуацыя са мной, яна зноў пачала... Называю яе словы паклёпніцкімі. Але пакуль я ў суд не падаю. Адукаванаму чалавеку зразумела, што чалавек пакрыўджаны з задавальненнем прайшоў бы экспертызу. Магчыма, гэтая яе незадаволенасць была выклікана разбіральніцтвам падчас затрымання. Можа, ёй нешта не спадабалася? У такім выпадку яна магла прыйсці да мяне на наступны дзень. Мой кабінет быў для ўсіх адчынены. Але яна не прыйшла. Такіх людзей, як Карач і Шчукін — я іх добра запомню, — не разумею. Я лічу сябе абражаным, але пакуль мне не да суда. Калі разбяруся з цяперашняй сітуацыяй, прыму для сябе рашэнне па гэтым пытанні. Гэта непрыгожа, якую б чалавек ні займаў палітычную пазіцыю.

* * *

У сваю чаргу, Вольга Карач так апісала сваю «сустрэчу» з Лінкусам падчас таго затрымання: «У кабінет, як віхура, уварваўся цёмнавалосы мужчына, падляцеў да мяне і з размаху заляпіў мне па скроні, закрычаўшы, што будзе займацца са мной сэксам у нетрадыцыйнай форме з элементамі гвалту».

Праваабаронца Валерый Шчукін і Андрэй Левінаў сутыкаліся таксама з Дзінасам Лінкусам, калі той працаваў намеснікам старшыні Фрунзенскага РУУСа Мінска. Яны адзначылі яго нестандартныя паводзіны і здзеклівы тон пры размове.



**Сяргей Макарэвіч**

# Пацярпелым ад выбуху пад Лагойскам выплацілі 46 млн рублёў

**А разбураны інтэрнат на месцы здарэння вырашана адбудаваць.**

Хаця раней старшыня Мінскага аблвыканкама Барыс Батура і заяўляў пра верагоднасць куплі для жыхароў разбуранага дома новых кватэр. У трохпавярховым панэльным будынку пры выбуху былі пашкоджаныя сем кватэр, абваліліся пліты перакрыцця 2-га пад'езда, разбураныя перагародкі. Але дзве траціны будынка ацалелі, захаваўся падмурак. Сума нанесенай шкоды пакуль не вызначана. Цяпер супрацоўнікі «Белкомплекспраекта» праводзяць праектныя работы. Эксперты ўжо заявілі, што паўтара пад'езда захаваліся ў добрым стане. Увосень інтэрнат можа быць адноўлены.



Разбураны інтэрнат вырашана адбудоўваць.

ЕЎРАРАДЫЁ

Старшыня Савета дэпутатаў Лагойскага раёна Пятро Вабішчэвіч паведаміў, што жыхары інтэрната атрымалі матэрыяльную выплату ў памеры 46 млн. рублёў. 5 сем'яў — па 4 млн і 13 сем'яў — па 2 млн. Таксама быў адкрыты дабрачынны рахунак. Па словах намесніка старшыні Лагойскага райвыканкама Сяргея Кулінковіча, грошы на рахунак усё яшчэ паступаюць. Па стане на 27 лютага, пералічылі амаль 11 млн рублёў.

Мяркуецца, што сабраныя грошы пойдуць на пакрыццё розных выдаткаў пацярпелым, у тым ліку ў аплату часовага жытла. Частка людзей цяпер жыве ў мясцовай гасцініцы. З яе адміністрацыяй дамоўлена, што гэтыя нумары пераведзены ў статус інтэрната, што адпаведна ніжэйшымі робіць і цэны на іх. Некаторыя людзі жывуць у сваякоў і знаёмых, а нехта здымае кватэры. Па словах Кулінковіча, райвыканкам гатовы ўсім жыхарам інтэрната выдаткаваць 50 працэнтаў ад цаны на здымную кватэру, калі яны звернуцца па дапамогу. У санаторыі «Рудня», куды засялілі людзей адразу пасля выбуху, нікога не засталося.

Нагадаем, 8 лютага ў вёсцы Малінаўка Лагойскага раёна адбыўся выбух у будынку інтэрната вайсковай часці. З-пад завалаў работнікі МНС выратавалі чатырох чалавек, адзін загінуў. Жанчыне з апёкамі твару аказалі дапамогу і адпусцілі на амбулаторнае лячэнне. Без шпіталізацыі медыцынская дапамога аказвалася яшчэ дзесяці асобам на месцы выбуху. Тры чалавекі яшчэ застаюцца ў вайсковым шпіталі. Сярод іх мужчына, які пацярпеў найбольш: яму адарвала ступак.

Найбольш верагоднай прычынай здарэння назвалі выбух бытавога газу праз парушэнне эксплуатацыі сістэмы газазабеспячэння. Заведзена крымінальная справа.

**СМ**

**Нумар дабрачыннага рахунку:**

3132061100024, ЦБП №611 філіяла №500, Мінскае ўпраўленне ААТ «АСБ Беларусбанк», 223141, г. Лагойск, вул. Пралетарская, 1. УНП 100603596, МФА 153001601.

# Пад Дзяржынскам забілі «злодзея ў законе»?

**Труп грамадзяніна Арменіі знайшлі ў лесе.**

23 лютага ў лесе каля аўтадарогі Журавінка—Паланеўічы ў Дзяржынскім раёне знайшлі труп мужчыны. За спінай у яго на запясцях былі замкнутыя кайданкі. Пры ім не было дакументаў. Таму асобу забітага не змаглі адразу ідэнтыфікаваць. Як паведаміў старшыня ўпраўлення Следчага камітэта па Мінскай вобласці Ягор Сіняк, мужчыну вылічылі па адбітках пальцаў праз расійскіх калег — па беларускіх базах ён не праходзіў. Ім аказаўся ўраджэнец Ерэвана (Арменія), 1970 г.н. Ён меў расійскую рэгістрацыю — у Разані. Акалічнасці яго знаходжання ў Беларусі высвятляюцца.

Па падазрэнні ў забойстве затрыманыя тры чалавекі: мінчанка 1991 года нараджэння, якая знаходзіцца ў адпачынку для догляду за дзіцем, мінчанін 1990 года нараджэння, раней судзімы за хуліганства і махлярства, і жыхар пасёлка Гатава (Мінскі раён) 1991 года нараджэння.

У забітага мужчыны на целе было мноства татуіровак. Калі звярнуцца да іх тлумачэння, то вынікае, што пад Дзяржынскам знайшлі труп так званага «злодзея ў законе».

На ступаку правай нагі татуіроўка «ОНИ», на левым ступаку «УСТАЛИ» — «яны стаміліся хадзіць пад канвоем»;

на каленях абедзвюх ног татуіроўкі ў выглядзе ашчэраных тыгрыных пашчаў, якія глядзяць адна на адну — гаспадар наколкі люты, ненавідзіць закон, міліцыю;

на плячах 8-канцовыя зоркі — «злодзей у законе» (аўтарытэт у злачынным асяроддзі);

на правым перадплечы выява Маці Божай — чалавек стаў злодзеем яшчэ падлеткам;

на левым перадплечы карабель з ветразем — сімвал гастралюючага злачынца альбо прага свабоды, схільны да ўцёкаў;

на спіне царква з 10-ю купаламі і крыжамі — колькасць купалоў абазначае колькасць ходак альбо гадоў, адседжаных у турме.

Ці маглі гэта быць крымінальныя разборкі, пакажа следства. Пакуль матывы злачынства не ўстаноўлены.

**Кастусь Матушыч**

## Сцісла

### Скраў піва і збег

Выпадак здарыўся ў Слуцкім раёне, у вёсцы Заполле. Малады хлопец, знаходзячыся ў стане алкагольнага ап'янення, скраў 2 пляшкі піва і ўцёк.

Міліцыя сумесна з дружыннікамі затрымала злодзея, якім аказаўся 25-гадовы беспрацоўны вясковы жыхар. Заведзена крымінальная справа.

### На мінскай кальцавой загінула 21-гадовая

25 лютага ў 1.40 38-гадовы жыхар Мінскага раёна — кіроўца аўтамабіля «Додж Гранд Караван Спорт», — рухаючыся па МКАД з боку вёскі Зацань у напрамку праспекта Пераможцаў, на 43-м кіламетры ўчыніў наезд на 21-гадовую жыхарку Мінска, якая раптоўна выбегла на праезную частку.

### 85-гадовая жанчына расчляніла труп мужа

У прыватным доме ў вёсцы Гнездзін Бялыніцкага раёна Магілёўскай вобласці 25 лютага быў знойдзены расчлянёны труп 85-гадовага гаспадара. У здзяйсненні злачынства падазраецца яго жонка-аднагодка. Падазраваная змешчана ў абласную псіхіятрычную лякарню, дзе павінны высветліць, як даўно яна пакутуе на псіхічныя расстройствы і ў выніку чаго гэта адбылося. Акрамя таго, экспертызе трэба высветліць, ці была смерць яе мужа звязана з расчляненнем цела ці ж ён памёр да таго.

**ЗП**

# Сапраўдныя беларускія сімвалы

**«Пагоні» больш як 700 гадоў, тады як чырвона-зялёны сцяг быў прыдуманы сталіністамі ў 1951 годзе.**

Герб «Пагоня» — вяяр з узнятым мячом на белым кані ў чырвоным полі — вядомы ў Беларусі з глыбокай старажытнасці. У якасці дзяржаўнага герба Княства Літоўскага, старажытнай беларускай дзяржавы, яе пачаў выкарыстоўваць вялікі князь Віцень у канцы XIII стагоддзя. «Віцень пачаў княжыць над Літвою, устанавіў сабе герб і ўсяму княству Літоўскаму пячатку: рыцар збройны на кані з мячом, які цяпер называюць «Пагоня», — піша Густынаўскі летапіс.

### Чаму «Пагоня»?

Так называўся высакародны звычай, пашыраны ў нашых землях. У выпадку раптоўнага налёту ворагаў — вось наляцелі чужынцы, схапілі каштоўныя рэчы і дзяцей у палон — усе мужчыны, якія маглі трымаць зброю, сядалі на коней і пераследавалі захопнікаў, каб вызваліць забраных суайчыннікаў.

У часы вялікага князя Ягайлы (XIV ст.) на шчыце «Пагоні» з'явіўся шасціканцовы крыж — знак венгерскіх каралёў. Адбылося гэта пасля таго, як вялікі князь ажаніўся з Ядзвігай, польскай каралеўнай венгерскага паходжання. Знак той нагадваў здаўна вядомы нашым продкам Ярылаў крыж — сімвал бога сонца і ўрадлівасці.

Царква надала «Пагоні» іншае значэнне: святары былі схільны лічыць яе выявай святога Юр'я, нябеснага апекуна Беларусі.

Выявай «Пагоні» ўпрыгожаныя ўсе дзяржаўныя дакументы тагачаснай Беларусі, старонкі «Літоўскай Метрыкі» і «Статутаў». «Пагоня» была на сцягах беларуска-літоўскага войска ва ўсіх вырашальных бітвах тых часоў — ад Грунвальда да Оршы.

Пасля Люблінскай уніі «Пагоня» нароўні з польскім белым арлом змяшчалася на гербе Рэчы Паспалітай і на каралеўскім сцягу.

### Не разбіць, не спыніць, не стрымаць!

Нават пасля падзелаў Рэчы Паспалітай у XVIII стагоддзі, калі Беларусь трапіла пад уладу Расіі, «Пагоня» засталася гербам беларускіх губерняў. Яна трапіла на значкі расійскіх войскаў, размешчаных у Беларусі (напрыклад, Гродзенскага гусарскага), і нават на герб Расійскай імперыі.

Пячатку з «Пагоняй» меў і Кастусь Каліноўскі — кіраўнік паўстання 1863 года.

У пачатку XX стагоддзя Максім Багдановіч прысвяціў старажытнаму беларускаму гербу пранікнёны патрыятычны верш:

Усё лятуць і лятуць тыя коні,
Срэбнай збруяй далёка грымяць…
Старадаўняй Літоўскай Пагоні
Не разбіць, не спыніць, не стрымаць!



**«Пагоня» на Статуце ВКЛ 1588, які быў самым прагрэсіўным заканадаўствам тых часоў.**

### Новы канон «Пагоні»

У сакавіку 1918-га «Пагоня» натуральна стала дзяржаўным гербам Беларускай Народнай Рэспублікі — першай незалежнай беларускай дзяржавы. Калі ў канцы 1980-х разгарнулася барацьба за незалежнасць Беларусі, «Пагоня» з'явілася каля лагатыпаў падпольных улётак і першых незалежных газет. Харугвы з ёй неслі на чале шэсцяў. З'явілася новыя карціны па яе матывах і песні пра яе.

З аднаўленнем незалежнасці ў 1991-м «Пагоня» зноў набыла дзяржаўны статус. Выдатныя мастакі Мікола Кулік, Уладзімір Крукоўскі і Леў Талбузін выпрацавалі для яе новы канон. Яны надалі шасціканцоваму крыжу на шчыце выгляд крыжа Еўфрасінні Полацкай, святой заступніцы Беларусі. На «Пагоні» прысягала беларускае войска. Яна ўпрыгожвала тэкст канстытуцыі і трыбуну, на якой прысягаў прэзідэнт.

**Чырвона-зялёны сцяг прыдумалі сталіністы**

У канцы 1940-х Сталіну спатрэбілася стварыць сцягі саюзных рэспублік СССР, асабліва тых, якія былі членамі ААН. Яны былі выраблены на аснове сцяга савецкай імперыі. Для сцяга БССР у якасці адметнасці выбралі беларускі народны арнамент. Тады ў архівах знайшлі малюнак вышыўкі на ручніку, зроблены ў 1917-м сялянкай Матронай Маркевіч з в. Касцілішча Сенненскага раёна. Вышыўка называлася «Узыходзячае сонца». Мастак Гусеў падрыхтаваў праект на аснове гэтага рысунка, з пэўнымі сімвалічнымі дадаткамі. Гэты сцяг і зацвердзілі ў 1951.

Герб БССР трохі даўнейшы. Ён быў прыняты ў 1927, таксама на аснове герба СССР. Спачатку на ім былі надпісы на чатырох дзяржаўных мовах: беларускай, расейскай, польскай і ідыш. Але ў 1937-м польскую і ідыш прыбралі.

Такім чынам, гэты герб маладзейшы за «Пагоню», прынамсі, на 7 стагоддзяў, а сцяг — на 34 гады за бел-чырвона-белы.




**Герб БССР у 1927—1937. Пазней з яго знікнуць надпісы на ідыш і па-польску.**



**Пячаткі легендарнага вялікага князя Вітаўта, пры якім ВКЛ стала найбольшай краінай Еўропы. XIV ст.**



**Герб Беларускай Народнай Рэспублікі. 1918.**

**Прафанацыя сімволікі**

Цяперашнія сцяг і герб распрацаваны на аснове савецкіх. З іх папрыбіралі толькі камуністычныя лозунгі. З лозунгамі даходзіла, дарэчы, да смешнага.

Так, указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР ад 20 лістапада 1938 быў удакладнены пераклад на беларускую мову дэвіза на гербе, ён стаў чытацца як: «Пралетарыі ўсіх краін, еднайцеся!».

Як успамінаў тагачасны кіраўнік справаў Саўміна Аўген Калубовіч, ініцыятаркай зменаў, у тым ліку ўвядзення ў яго арфаграфічнай памылкі была Старшыня Вярхоўнага Савета БССР Надзея Грэкава. Матывавала тым, што «яна як сакратар ЦК часта падпісвае «дырэктывы» калгасам, што ўжо пара пачынаць «злучную кампанію для ската»; таму заклік «злучайцеся!» у дачыненні да пралетарыяту «неяк нядобра гучыць». А слова «яднайцеся» мусіла пісаца праз «е», каб падчас пераносаў не выйшла «яд-».

Нагадаем, ад рук сталіністаў у Беларусі загінула каля 200 тысяч чалавек, а ўсяго праз рэпрэсіі прайшло 600 тысяч.

### Рэнегаты

Аднак у 1995-м Аляксандр Лукашэнка, каб атрымаць падтрымку і грошы Расіі, вырашыў узяць курс на русіфікацыю. У атмасферы тэрору быў абвешчаны «рэферэндум». Сярод пытанняў былі змена дзяржаўнай сімволікі і ўвядзенне расійскай мовы ў якасці дзяржаўнай. Каб матываваць гэтую змену, прапаганда карысталася беспардоннымі фальсіфікацыямі. Рэжысёр Юрый Азаронак зняў фільм «Дзеці хлусні», у якім даводзіў, што «Пагоня» і бел-чырвона-белы сцяг... фашысцкія, на той падставе, што беларусы іх выкарыстоўвалі ў часы нямецкай акупацыі. Пра тое, што «Пагоня» стагоддзямі існавала перад той вайной, фільм змоўчваў. Немцы, шведы, украінцы, літоўцы — усе трымаюцца сваёй нацыянальнай сімволікі і будуюць нацыянальныя дзяржавы. Ва ўсёй Еўропе толькі Беларусь пагналася за халяўнымі расійскімі грашыма. Гэта, бадай, самая ганебная пагоня ў беларускай гісторыі.

Але значэнне «Пагоні» такое, што сцерці яе з памяці не ўдалося. Нацыянальнай сімволікай працягвае карыстацца інтэлігенцыя, моладзь. Многія школьнікі носяць значкі з нацыянальным сцяжком або «Пагоняй». Адзін мой знаёмы хлопец, якому ў школе забаранялі насіць такі значак, чапляў яго на адвароце лацкана. Іншыя маюць «Пагоню» на сваіх аватарках у сацыяльных сетках. Налепкі з «Пагоняй» можна пабачыць на машынах. У тысячах кватэр бел-чырвона-белыя сцягі.

### Бел-чырвона-белы сцяг

«Пагоня» сягае каранямі ў сівую даўніну, а вось нацыянальны сцяг быў кадыфікаваны адносна нядаўна.

Беларусы здаўна шанавалі спалучэнне белага і чырвонага колераў. На карціне XVI ст. «Бітва пад Оршай» пікі вояроў ВКЛ упрыгожваюць сцяжкі з выявай чырвонага крыжа на белым полі — крыжа святога Юр'я. Чаргаванне белых і чырвоных палосаў можна бачыць і на сцягах каралёў Рэчы Паспалітай. У хрысціянскай сімволіцы чырвоны пас (або крыж) на белым полі сімвалізаваў кроў Хрыста.



**Сёння «Пагоня» — герб Віцебшчыны: над Глыбоцкім райвыканкамам. 2010.**

Аднак бел-чырвона-белы сцяг у сённяшнім выглядзе, у адрозненне ад «Пагоні», мае канкрэтнага аўтара. Сцяг стварыў у 1917 Клаўдзій Дуж-Душэўскі.

Да яго, маладога архітэктара, выпускніка Пецярбурскага горнага інстытута і найталенавіцейшага тэатрала, з просьбай зрабіць эскіз нацыянальнага сцяга звярнуліся беларускія арганізацыі Пецярбурга.

«Беларусы [даўней] лічылі сваім дзяржаўным сцягам белую Пагоню на чырвоным полі», — пісаў ва ўспамінах Дуж-Душэўскі. Рух за незалежнасць хацеў стварыць сабе сцяг больш адрозны ад герба, як было ў іншых, дзяржаўных народаў».

### Усім да душы

Створаны Дуж-Душэўскім сцяг быў упершыню ўзняты ўвесну 1917 на будынку Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны ў Пецярбургу (Дуж-Душэўскі быў супрацоўнікам гэтага Таварыства). А 12 сакавіка ў Мінску ўпершыню адбылося масавае свята — нацыянальны Дзень беларускага значка. Бел-чырвона-белыя значкі, кукарды і сцяжкі можна было пабачыць паўсюль на вуліцах.

Бел-чырвона-белую стужку ў 1917-м сталі насіць і вайскоўцы-беларусы на франтах Першай сусветнай вайны, каб пазнаваць сваіх.

У снежні 1917 у Мінску падчас Усебеларускага з'езда бел-чырвона-белы сцяг ужо аднадушна прызнаваўся нацыянальным сімвалам Беларусі. Ён усім адразу прыйшоўся да душы: светлы, зыркі і непаўторны.

Ён стаў дзяржаўным сцягам Беларускай Народнай Рэспублікі. За саветамі ж сцяг быў фактычна забаронены. Тады ж чырвоны пас на сцягу набыў новае тлумачэнне — кроў, пралітая за айчыну.

### Міроны

Бел-чырвона-белы сцяг і «Пагоня» — сімвалы змагання беларусаў за свабоду. З нацыянальным сцягам звязаная легендарная постаць Мірона — невядомага, які ўздымае сцягі на самых высокіх і небяспечных пунктах. «Міронам» ён падпісваўся ў цыдулках, прымацаваных да штандараў. Відаць, у рэальнасці такіх Міронаў дзясяткі, калі не сотні.

За вывешванне нацыянальнага сцяга ў Віцебску нядаўна быў пасаджаны ў турму патрыёт Сяргей Каваленка.

Парадаксальна, але ўлады таксама патроху пачынаюць разумець, што гісторыю не сатрэш. «Пагоня» вярнулася на герб Віцебскай вобласці. Для яе знайшлі і афіцыйнае вызначэнне — «гістарычны сімвал Беларусі».

**Сяргей Мікулевіч**

# Беларуская глыбіня. **Бездань Азэфа**

Піша **Павел Севярынец**.

*Хай не паглыне мяне багна,*
*хай не замкне нада мною*
*прорва пашчы свае...*
*Псальма 68:16*



**Павел Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

Далёка-далёка, недзе на краі зямлі, ёсць такія месцы, глыбіня якіх невымерная. Кінеш туды каменьчык — і не пачуеш ані гуку ў адказ.

У Беларусі такое месца раптам развярзаецца перад табою на 52.51.17 паўночнай шыраты і 24.36.54 усходняй даўгаты, на мяжы Берасцейшчыны і Гарадзеншчыны, паміж Ружанскай ды Белавежскай пушчамі. Вёсачка Лыскава на колькідзясят двароў, месца пахавання класіка польскага сентыменталізму Францішка Карпінскага, нараджэння біскупа Аляксандра Мікалая Гараіна, і радзіма найвялікшага правакатара XX стагоддзя, лідара партыі расійскіх сацыялістаў-рэвалюцыянераў, тэрарыста Азэфа.

Цяпер Лыскава — гэта 40 кіламетраў ад Пружанаў, 443 жыхары, сярэдняя школа, Дом культуры, бібліятэка...

## Цяжкі чорны позірк няголенага, звераватага твару »

...валы былога каралеўскага замка XVI ст. Касцёл Найсвяцейшай Тройцы, Царква Раства Божай Маці... вялікія старадаўнія могілкі. Але калі паглыбляешся ў мінулае — займае дух і зямля сыходзіць з-пад ног.

Адсюль Азэф.

Народжаны ў Лыскаве ў 1869, у сям'і беднага габрэйскага краўца, Еўна з юнацтва ўдзельнічаў у гуртках рэвалюцыйнай габрэйскай моладзі. Звычайны габрэйскі хлопчык з беларускага мястэчка... Але на фота з дасье ахранкі (фас, профіль) ужо цяжкі чорны позірк няголенага, звераватага твару.

Калі ж пачалася пачвара?

Яшчэ падлеткам, скраўшы вялікую суму грошай, юны Еўна выязджае за мяжу. Падман, буйныя грошы і пераход усялякіх межаў цяпер стануць знакам ягонага жыцця.

Пачынаў вялікі правакатар XX стагоддзя гэтак жа, як і які-небудзь агент Вектар — за 50 рублёў у месяц ад сакрэтнага дэпартамента паліцыі расейскай імперыі пайшоў пастукваць на сваіх аднакурснікаў у Політэхнічным інстытуце ў Карлсруэ. Аказаўся надзвычай спрытны: у выніку паспяховай шпіёнскай працы вылучыўся на першыя ролі ў расейскім сацыял-рэвалюцыйным руху, удзельнічаў у яднанні разрозных падпольных гурткоў — і вось пасля арышту літоўскага габрэя Гершуні ўжо ў 1903 стаў кіраўніком Баявой арганізацыі эсэраў. Тэрарыстам №1 у імперыі. На гэты момант жалаванне Еўна Фішалевіча Азэфа («інжынера Раскіна», паводле паліцэйскага дасье) дасягнула 1000 рублёў.

Азэф арганізаваў больш за 30 тэрарыстычных актаў, ажыццявіў забойствы ключавых дзеячаў царскага ўрада, у тым ліку сваіх начальнікаў: міністра ўнутраных справаў і шэфа корпуса жандараў Плеве (якога лічылі галоўным арганізатарам габрэйскага пагрому ў Кішынёве ў 1903), генерал-губернатара Масквы, Вялікага князя Сяргея Аляксандравіча, пецярбургскага граданачальніка фон дэр Паўлава... Менавіта Азэф ініцыяваў ліквідацыю Гапона як правакатара. І ён жа выдаў увесь склад эсэраўскага ЦК ды дзясяткі эсэраў-баевікоў.

Раскрыты ў 1908, уцёк за мяжу, дзе і памёр ад хваробы — праз месяц пасля таго, як на ягонай радзіме была абвешчаная незалежнасць БНР.

Ударамі сваёй здрады Азэф, быццам малатабойца, наносіў страшныя прабоіны Раейскай імперыі з сярэдзіны. Кожны выбух ці арышт патрабаваў усё большай і большай



лютасці, нянаісці, крыві і ад дзяржавы, і ад народа.

Негаваркі, змрочны, але надзвычай вымудраны, Азэф віртуозна, з більярдным разлікам і нечалавечай вываротлівасцю ўзрываў сваіх куратараў і другой рукой тут жа здаваў выканаўцаў. Адзіны, каму Азэф заставаўся верным, напэўна, быў д'ябал, чый дух і почырк у бясконцых крывавых здрадах і забойствах відавочны.

На магіле Азэфа пасадзілі куст шыпшыны.

О, Беларусь, мая шыпшына, зялёны ліст, чырвоны цвет!.. Хто б мог уявіць, што прэ з тваёй прэлай балоцістай зямлі і што ў тваёй глыбокай і пакорлівай душы народзяцца Азэф, Дзяржынскі, Шэйман і нават Генадзь Давыдзька.

Ноччу ля закратаванага акна спецкамендатуры ў Купліне, на паўдарозе паміж Лыскавым і Дастоевым, глядзіш у бездань, поўную далёкіх агеньчыкаў, — і думаеш: страшна стаць Азэфам.

Свая маленькая, як радзімка, вёсачка Лыскава ёсць у кожным беларусе. Цярушыш шчэпцю гэтую зямлю і шукаеш зместу: чый ген пераможа? Паэта? Святара? Здрайцы?..

А здрада роднаму чалавеку? Бліжняму? Здрада Радзіме? Веры? Памяці?

Насамрэч мы здраджваем штодня, і праўда ў тым, што нашы бясконцыя маленькія і вялікія здрады спрычыняюцца да духоўнай смерці многіх і многіх.

Хто можа зразумець Азэфа? Дараваць Азэфу? Вырваць Азэфа з самага прадоння свайго сэрца?

Чалавеку гэта немагчыма.
Але ўсё магчыма Госпаду.
*Куплін*

# «Палітычны ананізм» і паўналецце беларускай дэмакратыі

**Хадзіць ці не хадзіць?** Вось пытанне, якое ўвесь час узнікае напярэдадні беларускіх выбараў на апазіцыйных кухнях.

Улада раз за разам б'е — або брутальна, як 19.12.2010, або акуратней, прэвентыўна, па-махлярску, як у папярэдніх палітычных кампаніях. А апазіцыя... раз за разам ходзіць. «Хадзіць!» — амаль аднагалосна выгуквалі розныя партыі і рухі 15 гадоў.

Ці не настаў час задумацца: да чаго ж мы «дахадзіліся» за гэты час?

1) Адбылася легалізацыя і ўмацаванне існага рэжыму. У вочных, закулісных і іншых амаральных змаганнях з апазіцыяй выкавалася яе ідэалагічная «зброя», выпрасталася ўладная вертыкаль і загартаваліся карныя органы.

2) Спынілася эканамічная трансфармацыя і развіццё краіны, для чаго былі даволі спрыяльныя ўмовы ў сярэдзіне і канцы 2000-х. Цяпер гэта будзе рабіць і больш балюча, і менш эфектыўна.

3) Наступствам удзелу у выбарах стаў і дзяржаўны пераварот 19.12.10, які ўсё ж такі адбыўся




PHOTO.BYMEDIA.NET

насуперак волі большасці людзей, што хацелі перамен. Плады «снежаньскай контррэвалюцыі» мы спажываем і сёння.

Яшчэ адным вынікам «хаджэння ў выбары» мог бы стаць юбілей беларускай дэмакратыі. Калі пачаткам лічыць 1994 год, то сёлета ў нас будзе «паўналецце» народаўладдзя.

Але нешта не адчуваецца свята і радасці ад таго, што «нам ужо 18». І справа, відаць, у тым, што тутэйшая дэмакратыя крыху «не тая», ці то «скрыўленая» ці, наадварот, «очань прамая». Незвычайнасць яе праяўляецца, напрыклад, у тым, што занятак амаль усёй нашай апазіцыі ў апошнія гады можна смела назваць «палітычным ананізмам».

## Да «цела» дапускаюцца толькі «правільныя і правераныя члены» »

Візуальны «ўдзел» у палітыцы без доступу да «цела» (парламента і ўлады) з кожным разам усё больш нагадвае падлеткавую мастурбацыю пры падглядванні за «дарослымі цёцямі». Гэта ўжо стала беларускім палітычным рытуалам: асобным апазіцыянерам раздаюцца «абяцанкі-цацанкі» ў выглядзе рэгістрацыі ў ЦВК — бярыце, хлопцы, спрабуйце, мо заraz і ўдасца... Прычым усе ведаюць, што ўдасца зноў тое самае, бо да «цела» дапускаюцца толькі «правільныя і правераныя члены».

Калі беларуская дэмакратыя сапраўды ўжо выйшла з падлеткавых гадоў, то трэба канчаць з гэтым псеўдавыбарным «ананізмам». На маю думку, пакуль не адбудзецца змены выбарчага закона і самога механізму выбараў, удзельнічаць сур'ёзным, дарослым людзям у такіх ганебных актах не мае сэнсу.

**Васіль Аўраменка, медык, Магілёў**

# Ці ж было калі, каб настаўнік...

**Хачу звярнуць увагу** на праблему сучасных настаўнікаў.

Ці ж гэта было калі, каб настаўнік у нядзелю ішоў са сваімі школьнікамі на хакей, бо на гульню РБ — Расія «не хапае» гледачоў, каб зрабіць добрую карцінку на БТ?

Ці ж гэта было калі, каб настаўнік прасіў бацькоў і дзяцей і ішоў сам чысціць снег каля школы?

Ці ж гэта было калі, каб настаўнік за свае грошы выпісваў газеты («Настаўніцкая», «СБ», «Мінскі кур'ер»)?

Ці ж гэта было калі, каб настаўнікі самі мылі, фарбавалі столі і падлогі ў сваіх кабінетах?

Яшчэ ў настаўніка такая бясплатная справа, як «всеобуч». Настаўніку дадуць участак для прыпіскі дзяцей у школу. Два разы на год настаўнік бясплатна абыходзіць свой «раён».

А сёлета з'явілася яшчэ адно дзіва! Маўляў, прыйшлі паперы з ваенкамата на хлопцаў дзявятых класаў. Хто будзе запаўняць (на кожнага чатыры паперы: характарыстыка, 2 анкеты і ведамасць адзнак)? Урэшце, запаўняе класны кіраўнік. Але ўвага — толькі на адной з гэтых пісуль будзе стаяць подпіс кіраўніка. На астатніх будуць стаяць подпісы людзей з зоркамі на плячах. Ці ж гэта было калі?

Атрымліваецца, што настаўнік — універсальная прафесія. А ці гэта правільна так быць? Ці не трэба, каб кожны рабіў сваё за сябе? Можа тады і парадак будзе і ў школе, і ў ваенкамаеце...

Вось гэтыя аматары хакея, дворнікі, чытачы прадзяржаўных газет, участковыя, прапаршчыкі і лейтэнанты, але толькі не настаўнікі атрымліваюць сапраўды «настаўніцкую зарплату». Ці ж гэта будзе калі?...

**МБ, Мінск**

# «Я не хачу, каб мой інструмент прагучаў на канцэрце «За Беларусь»

Гутарка з **Паўлам Аракелянам**.




Павал Аракелян — адзін з найлепшых саксафаністаў Беларусі. Вядомасць у інтэрнэце ён займеў, арганізаваўшы канцэрт у падтрымку пацярпелых пасля тэракта ў метро. Музыка напісаў джазавую кампазіцыю на вершы Някляева і прынцыпова не ўдзельнічае ў «забеларускіх» канцэртах. Затое грае ў дзіцячых дамах. Артыст і палітыка: як гэтыя паняцці сумяшчаюцца ў беларускіх рэаліях? І ці лёгкі хлеб джазавага музыкі?

**«Наша Ніва»: Павал, ты нарадзіўся ў Баку. Як патрапіў у Беларусь?**

**Павал Аракелян:** Мая сям'я перабралася сюды незадоўга да трэцяй хвалі этнічных чыстак армянаў. Практычна, мы з'ехалі за пару месяцаў да пачатку грамадзянскай вайны. Многія тады эмігравалі ў Маскву, ЗША, Заходнюю Еўропу. Тата выбраў Беларусь, хоць раней тут ніколі не быў. Кіраваўся тым, што ў краіны былі ўсе шанцы стаць другой Швейцарыяй — ціхай, спакойнай, багатай. Мы не вельмі любім тлум, вялікія мегаполісы. Я да гэтай пары шчаслівы, што не паехалі ў Расію: не люблю Маскву. На жаль, у Беларусі здарыўся такі форсмажор, адзін працэнт са ста, які перакрэсліў усе надзеі на гэтую краіну... У Азербайджан я не езджу, не раяць. Хоць у Мінску мы жывём кватэра ў кватэру з азербайджанцам. У нас мір, спакой і парадак.

**«НН»: Значыць, Беларусь стала для цябе роднай?**

**ПА:** Так, я сябе нацыянальна ідэнтыфікую з беларусам.

**«НН»: Гэта і паклікала на Плошчу?**

**ПА:** Я выступаю з пазіцыі «як мне прасцей жыць». Я прыйшоў да высновы, што трэба казаць тое, што лічыш патрэбным, не крывячы душой перад сабой. Падчас выбараў-2006 я пачаў сачыць за падзеямі, зразумеў, што ў Беларусі аўтарытарны рэжым. Пасля выбараў цікавіўся лёсам Казуліна. Гэта быў першы маральнага сталення.

Падчас апошняй Плошчы я вырашыў зрабіць тое, што ў маіх сілах. Звязаўся са штабам Някляева. Мы дамовіліся пра выступ. Разлічвалі, што мітынг бу-дзе мірны, што не будзе правакацый. Калі даведаўся, што здарылася з калонай Някляева, ішоў без асаблівых спадзяванняў. У выніку я проста адстаяў на Плошчы, пакуль было магчыма. Увогуле, не вельмі камфортна пачуваюся ў натоўпе. Але тады было адчуванне ўздыму і яднання.

**«НН»: Не было думкі, што вось ён, дзень «Х», пасля якога надыдзе дэмакратыя?**

**ПА:** Дэмакратыя, свабода — гэта не Лукашэнка, не Куляшоў, не прозвішчы, не асобы. Гэта доўгаядоўгая праца ўсіх дзесяці мільёнаў. Праз тыдзень дэмакратыя не прыйшла б, але быў бы шанец хутчэй распачаць гэтыя змены.

**«НН»: Ты не лічыш, што артыст мусіць быць па-за палітыкай?**

**ПА:** Я б хацеў, каб так было. І не абавязкова ствараць на палітычныя тэмы. Мы, да прыкладу, песні пра свабоду не спявалі, гэта не наша. Але любая творчая актыўнасць шчыльна звязаная з навакольным жыццём. Калі чалавек недаатрымлівае інфармацыі палітычнай, эканамічнай, культурнай — любой, гэта будзе ўплываць у цэлым на яго светапогляд.

**«НН»: Многія твае «калегі па цэху» пазбягаюць смелых выказванняў...**

**ПА:** Я не баюся «праблемаў», бо не магу сур'ёзна ўплываць на сітуацыю. Іншая рэч, скажам, Міхалок: у яго ёсць выхад на рэальныя масы.

### Фастфуд для вушэй

**«НН»: Як ты ставішся да ўдзелу поп-выканаўцаў у канцэртах «За Беларусь»?**

**ПА:** Пачнём з таго, што яны ў прынцыпе не артысты. Артыст не мусіць разлічваць толькі на матэрыяльную выгаду. Такое мастацтва нічога ў сабе не нясе, не мае на ўвазе і не застаецца ў памяці людзей. Такое ёсць паўсюль, але на Захадзе навучыліся рабіць «фастфуд для вушэй і вачэй» лепшай якасці. Цябе «абслугоўвае» поп-дзіва ці «дзівец», за якімі стаіць велізарная каманда прафесіяналаў.

**«НН»: Усё-такі пра беларускую эстраду. Ці ёсць людзі, якія заслугоўваюць увагі?**

**ПА:** Частка вельмі добрых артыстаў супрацоўнічае з эстраднымі «зоркамі». Я мог бы назваць з дзясятак музыкаў джазавай школы, якія акампаніруюць усёй поп- і рок-сцэне. Я ад такога супрацоўніцтва адмовіўся. Бо ўсё адно гэта набывае палітычную афарбоўку. Твой інструмент можа прагучаць у фанаграме канцэрта «За Беларусь».

**«НН»: І што — не было спакусы паступіцца перакананнямі?**

**Павел Аракелян**

Нарадзіўся ў 1985 у Баку (Азербайджан). Праз тры гады сям'я пераязджае ў Мінск. Музыка, саксафаніст, флейтыст. Скончыў музычнае вучылішча імя Глінкі (2004). Удзельнічае ў розных музычных праектах.

**ПА:** Імкнуся шукаць іншыя крыніцы прыбытку. Шмат што спрабаваў: ад грузчыка да геймдызайнера. Нядаўна быў шыкоўны кінапраект — я зняўся ў серыяле Андрэя Курэйчыка «Вышэй за неба».

### «Выступы ў рэстаранах — гэта фініш»

**«НН»: Ты граў з вядомымі беларускімі джаз-бэндамі, цяпер у цябе свой праект...**

**ПА:** Мне прасцей сабраць людзей, з якімі мне зручна, прыемна, камфортна. Гэта прывяло да праекта «Аўтсайдары», што існуе цяпер. Ён заўсёды ішоў паралельна, дзе б я ні іграў — ці ў «Яблычнай гарбаце», ці ў Svet Boogie Band.

**«НН»: Ці лёгка джазмэну зарабляць на хлеб?**

**ПА:** Ідэю зарабляць музыкай я пакінуў. Выступы ў рэстаранах я лічу рамесніцтвам, да таго ж, якое нізка аплачваецца. Як правіла, гэта старт. А ў нас — фініш. Ты прыходзіш у рэстаран і там застаешся. Прафесійныя музыкі незапатрабаваныя. Народу «скармліваецца» няякасны прадукт з ТБ і радыё.

**«НН» Дык, можа, музыка ў вас занадта складаная?**

**ПА:** Аднойчы ў кампаніі далёкіх ад мастацтва людзей, крымінальнікаў, мяне папрасілі сыграць джаз. Праз нейкі час адзін з прысутных сказаў: «Я нічога не зразумеў, але ў гэтым нешта ёсць». Калі мы прыязджаем у дзіцячыя дамы, дзеці могуць выслухаць джазавы канцэрт. У іх галава яшчэ не забітая стандартнымі ўяўленнямі пра тое, якой «мае быць» музыка.

**Гутарыла Аксана Рудовіч**

**Кіно**

# Новы «вялікі нямы»: трыумф «Артыста»

Чорна-белы нямы фільм апошні раз атрымліваў галоўны «Оскар» **83 гады таму**.


«Артыст» можна пабачыць і ў кінатэатрах Беларусі.

Фільм Мішэля Хазанавічуса «Артыст» атрымаў пяць «Оскараў» на 84-й цырымоніі ўручэння ўзнагарод Акадэміі кінамастацтваў, якая прайшла ў нядзелю ў Лос-Анджэлесе.

Стужка сабрала галоўныя статуэткі: найлепшы фільм, найлепшы акцёр (Жан Дзюжардэн), найлепшы рэжысёр (Мішэль Хазанавічус), музыка і праца мастака па касцюмах. Як заўважылі крытыкі, гэта першы ад 1929 нямы фільм, які атрымаў галоўны «Оскар». І гэта ў стагоддзе, калі нават рэкламу хутка пусцяць у 3D.

Сюжэт «Артыста» просты: на зорку нямога кіно Джорджа Валенціна (яго іграе Дзюжардэн) у дзень прэм'еры новага кіно літаральна падае дзяўчына. Фота гэтага моманту трапляе ў прэсу. Зразумела, па выніках падзення дзяўчына пачынае рабіць кар'еру.

Ні Хазанавічуса, ні Дзюжардэна сур'ёзнымі мастакамі не лічылі. Першы здымаў нядрэнныя, але не шэдэўральныя камедыі з удзелам другога. І тут высвятляецца, што Дзюжардэн можа сыграць галоўную ролю ў нямым фільме (што, дарэчы, далёка не ўсе сучасныя зоркі змаглі б), а Хазанавічус знаць яго так, каб за кветкамі стаяла чарга.

Рэжысёр, што цікава, паходзіць з аднаго былой Рэчы Паспалітай: яго дзед і баба прыехалі ў Францыю на пачатку 1920-х. Да гэтага яны жылі ў Літве і Польшчы. Не выключана, што на беларускіх памежках: у нас таксама хапае Гасановічаў ды Асановічаў.

**Юрась Ускоў**

**Сцісла**

**Білеты на Х'ю Лоры ў Мінску каштуюць да 1,5 мільёна**

Білеты на мінскі канцэрт Х'ю Лоры (знакамітага па галоўнай ролі ў фільме «Доктар Хаўс») будуць каштаваць ад 350 тыс. да 1,5 млн рублёў. Самыя танныя білеты на балкон, самыя дарагія — на дадатковыя месцы перад сцэнай. Канцэрт Х'ю Лоры з прэзентацыяй блюзавага альбома Let Them Talk пройдзе 22 чэрвеня ў мінскім Палацы Рэспублікі.

**Сяргей Рудовіч развітаўся з «Вігмай»**

За два гады яго працы кіраўніком аддзела маркетынгу «Вігма» выдала абсалютную большасць новых альбомаў айчынных выканаўцаў. Беларускамоўныя рэлізы Akute, Pomidor/Off, Этна-трыа «Тройца» ўвайшлі ў лік найлепшых працаў у беларускай музыцы ў 2011. За часамі Рудовіча беларускія дыскі сталі прадавацца ў гіпермаркетах, салонах сувязі ды на запраўках па ўсёй краіне.

Прычыны звальнення ў «Вігме» тлумачаць «нюансамі ўнутранага характару».

**СМ**

# Фестываль усходніх танцаў



**У Мінску 3—4 сакавіка** пройдзе III фестываль усходніх танцаў «Амшар». Месца правядзення: Палац Рэспублікі, клуб «Цэнтр».

## ІМПРЭЗЫ

### «ШАГ 4»

**Цэнтр беларускай драматургіі сумесна з Інстытутам імя Гётэ** ў Мінску праводзіць чытанні нямецкамоўных п'ес, якія змешчаны ў зборніку «ШАГ 4». Шэраг драматургаў з Аўстрыі, Швецыі і Германіі змясцілі свае п'есы пад адной вокладкай. Некаторыя з п'ес будуць прэзентавацца на беларускай мове. Калі вы хочаце адчуць, што турбуе Паўля Брадоўскага, Фалька Рыхтэра, Дэа Лоэра і іншых драматургаў, прыходзьце на чытанні ў наступныя дні:
**29 лютага а 19-й у Інстытуце імя Гётэ** — «Злодзеі».
**1 сакавіка а 16-й на малой сцэне РТБД** — «Дождж у Нойкёльне».
**1 сакавіка а 19-й на малой сцэне РТБД** — «Злодзеі».
**3 сакавіка а 16-й на малой сцэне РТБД** — «Карабель не прыйдзе».
**3 сакавіка а 19-й у малой зале РТБД** — «У надзвычайным становішчы».
**4 сакавіка а 16-й у малой зале РТБД** — «Залаты дракон».

### Браслаўшчына. Памяць і сучаснасць

**1 сакавіка а 11-й у аўдыторыі №304 філалагічнага факультэта БДУ (Маркса, 31)** адбудзецца прэзентацыя двухтомнага выдання «Браслаўшчына. Памяць і сучаснасць» пад рэдакцыяй праф. Эльжбеты Смулковай. Двухтомная публікацыя з'явілася ў выніку польска-беларускага навуковага супрацоўніцтва. Яна прадстаўляе актуальную сацыялінгвістычную сітуацыю і стан беларускіх, польскіх і літоўскіх гаворак, на якія моцна ўплывае руская мова.

## КАНЦЭРТЫ

### Умка

**1 сакавіка а 19-й у клубе Loft (Броўкі, 22)** — акустычны канцэрт Умкі з гурта «Умка і Бранявік».

### Квінтэт Томэка Грохата

**2 сакавіка а 19-й на сцэне Белдзяржфілармоніі** — квінтэт Томэка Грохата Tomek Grochot Quintet.

### Стары Ольса

**2 сакавіка а 19-й у Палацы культуры ветэранаў (Купалы, 21)** — канцэрт гурта сярэднявечнай музыкі «Стары Ольса» «Полацкі сшытак і гераічны эпас Вялікага Княства»

### Тур'я Турунен

**4 сакавіка ў Палацы спорту** адбудзецца канцэрт Тур'і Туранен. У Беларусь яна прыедзе з новым альбомам What Lies Beneath. Білеты ад 160 да 410 тысяч рублёў.



### Сустрэнь вясну з S°unduk'ом

**1 сакавіка ў Малой зале КЗ «Мінск»** адбудзецца канцэрт гурта S°unduk. Цана білетаў — 50—90 тысяч рублёў.

## ВЫСТАВЫ

### Цывілізацыя

**Да 14 сакавіка ў мастацкай галерэі «ЛаСандр-арт» (Раманаўская слабада, 24)** працуе выстава твораў Канстанціна Андруковіча «Цывілізацыя». На выставе прадстаўленыя творы аўтара, абумоўленыя ягонымі развагамі аб светабудове, асэнсаванні дзейнасці чалавецтва…

### Жыццё ў танцы

**У інфармацыйна-выставачным цэнтры Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я.Коласа НАН Беларусі (Сурганава, 15, п.110)** працуе выстава «Жыццё ў танцы», прымеркаваная да 110-годдзя з дня нараджэння таленавітага беларускага танцоўшчыка, балетмайстра, збіральніка беларускага харэаграфічнага фальклору Янкі (Івана Маркавіча) Хвораста (1902–1983).

### Французская фатаграфія ад вытокаў да нашых дзён

**5 сакавіка ў Гістарычным музеі (Маркса, 12) а 17-й** адкрываецца выстава фатаграфіі «100 х Францыя». Прадстаўленыя на выставе фатаграфіі належаць Нацыянальнай бібліятэцы Францыі, Музею д'Арсэ і Цэнтру Пампіду ў Парыжы. Выстава раскрывае гісторыю фатаграфіі, распавядае аб развіцці фатаграфічных тэхнік і напрамкаў. У экспазіцыі можна ўбачыць творы фатаграфаў-пікторыялістаў, сюррэалістаў, гуманістаў і іншых. **Выстава працуе да 25 красавіка.**

### Валенці Ваньковіч: «Партрэт Войцаха Пуслоўскага»

**Да 17 чэрвеня ў Мастацкім музеі (Леніна, 20)** экспануецца партрэт Вой-цаха Пуслоўскага пэндзля Валенція Ваньковіча. Гэты твор В.Ваньковіча ўпершыню экспануецца ў Беларусі.

### Слуцкія паясы

**Да 17 чэрвеня ў Мастацкім музеі** экспануюцца чатыры слуцкія паясы са збораў Нацыянальнага мастацкага музея Літвы ў Вільні.

### Спадчына

**Да 4 сакавіка ў Гістарычным музеі** працуе выстава твораў са шкла мастачкі Тацыяны Малышавай. На выставе прадстаўленыя кампазіцыйныя працы са шкла, выкананыя ў разнастайных тэхніках. Творы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, дапоўненыя дакументальнымі фотаздымкамі.

### Каліграфія

**У галерэі «Мабільная» Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі да 3 сакавіка** працуе выстава каліграфіі Лі Цзо (Кітай).
На выставе прадстаўлена больш за 60 каліграфічных аркушаў аўтара з яго ж арыгінальнымі тэкстамі. Гэта кітайскія вершы Цз Іе — творы, невялікія па памеры, але багатыя па змесце. Яны напісаны вершаванымі радкамі паводле старажытнай традыцыі.

### Дрэва жаданняў

**У малой зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва (пр.Незалежнасці 47)** да 4 сакавіка працуе выстава твораў Ганны Сілівончык «Дрэва жаданняў». Работы, прадстаўленыя на выставе, — спроба паказаць парадаксальныя і неадназначныя праявы кахання.

## ТЭАТРЫ

### 1 сакавіка

**Беларускай драматургіі** — «Містэр Розыгрыш»
**Оперы і балета** — «Севільскі цырульнік»
**Купалаўскі** — «Ноч на Каляды»

### 2 сакавіка

**Оперы і балета** — «Сільфіда»
**Беларускай драматургіі** — «Нязваны госць»
**Лялек** — «Гісторыя аднаго горада»
**Купалаўскі** — «Ноч на Каляды»

### 3 сакавіка

**Лялек** — «Мыйдадзір»
**Оперы і балета** — «Бальмаскарад»
**Купалаўскі** — «Выкраданне Еўропы, альбо Тэатр Уршулі Радзівіл»
**Беларускай драматургіі** — «Хто пакахае мадам?»

### 4 сакавіка

**Лялек** — «Прыгоды Пін-Піна»
**Оперы і балета** — «Страсці (Рагнеда)»
**Беларускай драматургіі** — «Белы анёл з чорнымі крыламі»
**Купалаўскі** — «Памінальная малітва»

### 5 сакавіка

**Купалаўскі** — «Паўлінка»
**Купалаўскі** — «Самотны захад»

### 6 сакавіка

**Беларускай драматургіі** — «Сонечка»

### 7 сакавіка

**Беларускай драматургіі** — «Шчаслівы муж»

### 8 сакавіка

**Лялек** — «Чырвоны Каптурок»

### 9 сакавіка

**Лялек** — «Кот у ботах»
**Беларускай драматургіі** — «Карусель»
**Оперы і балета** — «Папялушка»
**Купалаўскі** — «Чорная панна Нясвіжа»

### 10 сакавіка

**Лялек** — «Марозка»
**Беларускай драматургіі** — «Янка Купала. Кругі рая»
**Купалаўскі** — «Не мой»
**Оперы і балета** — «Князь Ігар»

## КІНО

### Леанарда Ды Капрыа — галоўны вораг Расіі

Дж.Эдгар (J. Edgar)
ЗША, 2011, каляровы, 137 хв.
**Рэжысёр:** Клінт Іствуд
**Ролі выконваюць:** Леанарда Ды Капрыа, Наомі Уотс, Армі Гамэр, Джудзі Дэнч, Джош Гэмілтан
**Жанр:** Біяграфічная драма
**Адзнака:** 6 (з 10)

На сыходзе жыцця Эдгар Гувер дыктуе журналістам мемуары пра ФБР. Як была створаная сакрэтная служба Амерыкі, як яна набірала ўладу, і якую ролю граў чалавек, які перажыў восем прэзідэнтаў і ненавідзеў камуністаў.
Клінт Іствуд паставіў акадэмічны і крыху груваcткі баёпік (біяграфічны фільм) пра аднаго з самых магутных людзей Амерыкі. Эдгар Гувер — апантаны працаю бюракрат, які дзеля абароны закона — закон абмінае, дзеля пошукаў праўды — не грэбуе хлуснёй, а калі корпаецца ў чужых таямніцах — мае свае.
Леанарда Ды Капрыа, які палову стужкі грае ў складаным старэчым грыме, стварыў вобраз неадназначнага чалавека — хваленага і замкнёнага, разумнага і зацятага.
Карціна — стрыманы любоўны трохкутнік, дзе Эдгар Гувер, ягоная сакратарка (Наомі Уотс) і памагаты дырэктара (Армі Гамэр) змагаюцца з наяўнымі і ўяўнымі ворагамі, абараняючы ўласнае дзіця — ФБР.
Эдгарам Гуверам палохалі дзетак у СССР, а Беларусі яшчэ моцна пашанцавала, што лукашэнкаўскія спецслужбы не ачоліў чалавек, падобны на героя карціны.

**Андрэй Расінскі**



# Як выкрыць мафію і зруйнаваць бізнэс-канкурэнта

Топ-10 арыгінальных гульняў для вясёлай кампаніі.




**Беларускія настольныя гульні**

Настаўніца беларускай мовы Аліна Вартаўнюк некалькі гадоў таму распрацавала дзве настольныя гульні. У «Ад Буга за Нарву, або Падарожжа з Мельніка ў Ячна» ігракі кідаюць косткі і ідуць па гульнявым полі. Назвы мясцовасцяў нясуць у сабе гістарычныя звесткі на асобных картках. А вось арфаграфічная гульня пра «У і Ў» пашырае ў дзяцей граматычныя веды.



За «Мафіяй» час ляціць незаўважна.

Папярэдняе дзесяцігоддзе было росквітам папулярнасці віртуальных гульняў, але цяпер усё больш беларусаў вяртаецца да настольных забавак. Класічнымі гульнямі лічацца шахматы і шашкі, але для вялікай кампаніі яны выглядаюць сумнымі, таму моладзь шукае больш вясёлыя і актыўныя варыянты. Нягледзячы на сваю дарагавізну, новыя настольныя гульні карыстаюцца попытам.

У Мінску працуе некалькі крамаў, якія спецыялізуюцца па гульнях. Асартымент у іх вялікі, праўда, большасць тавару прывозіцца толькі на замову, найчасцей з Расіі. Увогуле ж на рынку разнастайных забавак безліч — ёсць гульні і для самых маленькіх, і для праверкі памяці, і тыя, што трэніруюць рэакцыю. Такім чынам, у што варта пагуляць вялікай вясёлай кампаніяй?

### Зло супраць дабра

Гэта адна з нямногіх папулярных цяпер гульняў, створаных у Савецкім Саюзе. Яе прыдумаў у 1986 студэнт факультэта псіхалогіі МДУ Дзмітрый Давыдаў. Існуе шэраг мадыфікацый гульні, напрыклад, **«Востраў страху»** ці **«Трыдзявятае царства»**. Але сэнс заўсёды зводзіцца да таго, што мірным жыхарам трэба вылічыць некалькіх злых герояў і абясшкодзіць іх.

Для **«Мафіі»** патрэбна хаця б чатыры-пяць гульцоў. Калі ахвотных больш, могуць з'яўляцца дадатковыя ролі — напрыклад, доктара ці палюбоўніцы.

Папулярнасць гульні дасягнула свайго максімуму — у «Мафію» гуляюць у салонах і нават на тэлебачанні.

Для таго, каб цікава правесці час, неабавязкова купляць афіцыйныя карты, якія каштуюць 100—150 тысяч рублёў. Дастаткова паперак з напісанымі на іх ролямі.

**У «Мафію» гуляюць у салонах і нават на тэлебачанні**

### Капіталістычныя гульні з Савецкага Саюза

Самая вядомая ў гэтай катэгорыі гульня — згаданая вышэй легендарная **«Манаполія»**, якую прыдумалі амерыканцы падчас Вялікай дэпрэсіі пачатку 1930-х. Пра яе папулярнасць сведчаць дзясяткі мільёнаў прададзеных копій гульні па ўсім свеце. Пабудаваць сваю бізнэс-імперыю і зруйнаваць канкурэнтаў любілі нават піянеры ў Савецкім Саюзе. Купіць цяпер ліцэнзійную версію гульні абыдзецца ў 300—350 тысяч рублёў. У продажы існуюць і дзіцячыя версіі — капіталізму можна вучыцца з маленства.

Кітайскія і расійскія аналагі «Манаполіі» каштуюць значна танней — 50—100 тысяч рублёў. Замест заходніх брэндаў там можна купляць-прадаваць краіны, гарады свету ці, напрыклад, расійскія прадпрыемствы.

### Зрабіў гадасць — на душы радасць

Неабавязкова гуляць у кампаніі ў звыклага «Дурня». Карты бываюць і іншыя. Прыкладам гэтаму гульня **«Уна»** (каля 100 тысяч рублёў), якая ахапіла еўрапейскую моладзь некалькі гадоў таму — ёй бавіліся ў цягніках, у парках і нават падчас перапынкаў паміж лекцыямі.

Кожны гулец мае на руках некалькі рознакаляровых карт, ад якіх мусіць пазбавіцца, пракрычаўшы ў апошні момант «уна!». Як і ў любой гульні такога кшталту, трэба выпрацоўваць уласную стратэгію, аднак можна перамагчы і абсалютна выпадкова. У Расіі існуе падобная гульня **«Свінтус»** (таксама 100 тысяч рублёў). Яе стваральнікі звяртаюць увагу — прыемна не толькі перамагаць, але і сапсаваць сітуацыю свайму суперніку.

### «Пакажыце мне чайнік»

Адной з самых папулярных у Савецкім Саюзе гульняў быў **«Кракадзіл»**, у якім гулец мусіў растлумачыць загаданае слова ці словазлучэнне з дапамогай асацыяцый ці пантамімы. У яго гуляюць і цяпер, але ў продажы ёсць і «шырэйшыя» аналагі. Напрыклад, у **«Года»** (120—150 тысяч рублёў) ці **«Акціўіці»** (400—500 тысяч рублёў) таксама трэба растлумачыць сваёй камандзе слова, указанае на картцы. Гэта можна зрабіць рознымі шляхамі: праз наводзячыя пытанні, малюнак, пантаміму ці адным словам. У залежнасці ад абранага варыянта можна набраць менш ці больш балаў.

### Лоўкасць рук і ніякага махлярства

Сабраць вялікую кампанію для вясёлай гульні ўдаецца не заўсёды. Таму попытам карыстаюцца і забаўкі «на дваіх». У іх можа гуляць і большая колькасць чалавек, але хопіць і дваіх. Гэта спаборніцтвы на лоўкасць рук.

**«Джэнга»** (200—300 тысяч рублёў) — набор з 54 драўляных брускоў. З іх складаецца вежа, а пасля гульцы па чарзе пачынаюць даставаць па адным бруску і ставіць яго на верх вежы. Галоўнае — не абрынуць усю канструкцыю. У каго яна ўпадзе, той і прайграе. А вось у гульні **«Баўсак»** (700 тысяч рублёў) прынцып адваротны. Гульцы не разбіраюць, а будуюць вежу, прычым з элементаў, якія ім выдаюць супернікі. Але прайграе, зноў-такі, той, у каго вежа разваліцца.

**Ягор Марціновіч**




Калода для гульні ў «Уна».




Класічная брытанская «Манаполія».

## Windows 8 выйдзе з афіцыйнай беларускамоўнай версіяй

Але перакладуць не ўсю сістэму.

Новая аперацыйная сістэма Windows 8, якая з'явіцца ў продажы ўжо сёлета, будзе мець беларускамоўную версію. Праўда, перакладзеная не ўся сістэма, а толькі элементы інтэрфэйса, якія найчасцей ужываюцца карыстальнікамі. Такія моўныя пакеты звычайна ставяцца зверху нейкай іншай базавай мовы (напрыклад, расійскай ці англійскай).

Апроч таго, магчымасць усталявання беларускай мовы будзе толькі ў больш дарагіх версіях Windows. Зрэшты, большасць беларусаў карыстаецца пірацкімі копіямі, на якіх моўны пакет запрацуе без праблем.

У паведамленні Microsoft гаворыцца, што ў Windows 8 будзе ўключана 13 новых моў — панджабі і сіндская (Пакістан), курдская, уйгурская (Кітай), беларуская, кіньяруанда (Руанда), тыгрынья (Эрытрэя, Эфіопія), таджыкская, валоф (Сенегал), кічэ (Гватэмала), чэрокі (ЗША), гэльская (Вялікабрытанія) і валенсійская (Іспанія), — а таксама брытанская версія англійскай мовы.

**ЯМ**

## Інтэрнэт ад «Белтэлекама» падаражэў на 10%

Хоць кіраўніцтва кампаніі абяцала захаваць цэны.

Нацыянальны аператар сувязі «Белтэлекам» аб'явіў аб падаражанні безлімітных тарыфаў на інтэрнэт. Яно адбудзецца 1 сакавіка. Рост складзе роўна 10%.

Цяпер базавы тарыфны план «Дамасед» будзе каштаваць 59 400 рублёў штомесяц. Удвая хутчэйшы інтэрнэт абыдзецца ў 88 000 рублёў.

Кіраўнік Міністэрства сувязі Мікалай Панцялей заявіў, што не выключаны рост тарыфаў у рамках прагнозу інфляцыі, які складае 19–22%.

У снежні 2011 намеснік генеральнага дырэктара «Белтэлекама» Андрэй Сабораў заяўляў, што правайдар не збіраецца павышаць цэны на інтэрнэт у найбліжэйшым годзе. Дарэчы, у студзені ён пакінуў сваю пасаду.

**ЯМ**




Масленіца на крайняй поўначы Беларусі. Асвея (Верхнядзвінскі раён).




**«Амкадор» выпусціў паўэратычны карпаратыўны каляндар. На здымку: начальнік бюро ўпраўлення рэкламы Марыя Буяльская і пагрузчык універсальны Амкадор 330СЕ.**




**Памочніца Лукашэнкі Наталля Пяткевіч (у сіняй шапачцы) узнагароджвае пераможцу Кубка свету па фрыстайле, што прайшоў у Раўбічах. Беларусы на п'едэстал не трапілі.**




**У Шэймана (у цэнтры) медалёў, як у Брэжнева. На кіцелі пасла па асаблівых даручэннях Віктара Шэймана больш за 40 розных узнагарод.**

## Анекдоты

* * *

— Я і не планаваў паездкі ў Прагу, — паведаміў Сяргей Мартынаў прэс-службе МЗС, разбіраючы чамадан.

* * *

Шукаюць хакераў, якія ўзламалі камп'ютары Цэнтрвыбаркама і выкралі адтуль вынікі галасавання на парламенцкіх выбарах 25 верасня.

* * *

Аб'ява: «Гарачыя туры ў Рэспубліку Беларусь! Для ўсіх грамадзянаў РФ, якім цікава, што будзе пасля выбараў 4 сакавіка».

* * *

«Тата, тата, а 23 лютага і 8 сакавіка — гэта тое самае свята, толькі па праваслаўным і каталіцкім календары?»

* * *

18-гадовая Каця, якая вывучала псіхалогію з 5-га класа, марыла не аб прынцу, а аб паўдурку. І выйшаўшы замуж, у адрозненне ад сяброваk, не атрымала маральна-псіхалагічнай траўмы.

* * *

Па выніках праслухоўвання тэлефонных размоваў, на «Еўрабачанне» едзе Litesound.

* * *

Пасля перагляду вынікаў «Еўрафэсту» спецыяльнай камісіяй варта было б стварыць аналагічную камісію па пераглядзе памеру сярэдняга заробку па краіне, які штомесяц называе Белстат.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Каля Воўпы, Гродзенская губерня.** Паявіліся тут ваўкі. Раз ля вёскі заступілі ваўкі аднаго чалавека, то ён спаліў цэлую скрынку серчыкаў, а яны сядуць перад ім і зубамі ляскаюць, але яму неяк паручыла дабегчы да вёскі і нарабіць крыку. Збегліся людзі, і тады ваўкі ўцяклі.

**«НН». №8. 1912.**

**Халяўшчык.** У фінальных спаборніцтвах фрыстайлістаў-акрабатаў на Алімпіядзе бралі ўдзел 12 спартоўцаў. Чэх Валента быў адзіным, хто здолеў выканаць тры сальта з пяццю вінтамі. Выдатнае прызямленне і агульная колькасць балаў — 257,02. Джо Пэк пасля другой спробы меў 251,64, а наш Аляксей Грышын толькі 251,19. Апошнім скакаў лідар Эрык Бергаўст. Беларусы ўжо былі пахавалі надзею на медаль, але амерыканец няўдала прызямліўся на спіну.

**«НН». №8. 2002.**


**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснік галоўнага рэдактара — Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**




8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8005. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 28.02.2012.
Замова № 923.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12